
Сеч у Перацёсах → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Новы спеўнік Сцяпана Копы → 9

http://niva.iig.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (2974) Год LVIII | Беласток, 12 мая 2013 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Размова з **Тамашам Ціханюком**, дырэктарам Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы.

# 30 гадоў Беларускаму музею ў Гайнаўцы

**— У маі плануеце распачаць адзначаць 30-годдзе будовы і дзейнасці Беларускага музея ў Гайнаўцы. У час першага юбілейнага мерапрыемства мае адбыцца прэзентацыя новай кніжкі аб музеі.**

— У кніжцы знаходзіцца характарыстыка будовы і дзейнасці Беларускага музея як установы і дзейнасці музейнай арганізацыі. У новым выданні паказаны этапы будовы музея і асобы, якія найбольш ангажаваліся ў справу, а пасля ў дзейнасць музея. Ініцыятарам будовы Беларускага музея і асобай, якая кіравала пабудовай быў Канстанцін Майсеня і мы апісваем яго дзейнасць. Змясцілі мы ў кніжцы таксама артыкулы розных аўтараў аб нашым музеі. Сярод людзей музея, якіх мы апісваем у кніжцы, ёсць таксама Васіль Сакоўскі, Аляксей Харкевіч, Ян Хіліманюк і папярэдні дырэктар музея Ян Карпюк. Юліян Казбярук вёў музейную хроніку, якая стала галоўнай крыніцай інфармацыі аб будове музея пры падрыхтоўцы кніжкі. Выданне ілюстраванае шматлікімі здымкамі, як з перыяду будовы, так і пазнейшай дзейнасці музея.


фота Аляксея МАРОЗА

**— Ці з перспектывы 30 гадоў можна сказаць, што рэалізуецца першапачатковая ідэя дзейнасці Беларускага музея?**

— Рэалізуецца першапачатковая ідэя дзейнасці музея, задуманая Канстанцінам Майсенем. У музеі меў паўстаць беларускі асяродак, які — апрача музейнай дзейнасці — меў займацца папулярызацыяй беларускай культуры. Наш музей апрача выставачнай дзейнасці многа займаецца анімацыяй беларускай культуры, у шырокім яе значэнні. Турыстам, якія прыязджаюць звонку, мы з'яўляемся доказам, што тут ад вякоў жывуць беларусы. Апрача зацікаўлення прыродай Белавежскай пушчы і яе наваколля турысты знаёмяцца з нашай культурай і гісторыяй. Для мясцовага насельніцтва прапануем перш за ўсё шматлікія беларускія мерапрыемствы.

**— Вы прадбачваеце святкаваць юбілей музея таксама ў час чарговых мерапрыемстваў.**

— Усе мерапрыемствы, якія будзе арганізаваць наш музей у 2013 годзе, будуць праходзіць паз знакам юбілею.

**— Ці на падставе дакументаў і захаваных у музеі інфармацый можна вызначыць, якой вялікай была дапамога музею з боку БССР, а пасля Рэспублікі Беларусь, беларусаў з Захаду, якім вялікім быў уклад польскай дзяржавы, мясцовых улад і фондаў, бо ангажаванасць мясцовага насельніцтва бясспрэчна была вялікай?**

— Адказ на такое пытанне можа быць толькі спрошчаны і не будзе тычыцца ўсіх ахвяравальнікаў. У агульным дапамогу для будавання Беларускага музея можна падзяліць на тры падобныя часткі, адну — з Беларусі, перш за ўсё ў выглядзе будаўнічых матэрыялаў, другую — ад польскай дзяржавы і трэцюю — ад усіх беларусаў свету, у гэтым ліку і ад беларусаў Беласточчыны, якія многа дапамагалі сваёй працай. Аднак нельга было б распачаць будовы музея, калі б мясцовыя гайнаўскія ўлады не перадалі пад яго будову вялікага ўчастка з будынкамі ў цэнтры Гайнаўкі. Многа грошай у пазнейшым этапе атрымаў музей таксама ад Польска-Швейцарскай камісіі залатовых сродкаў, якія былі выкарыстаны на аддзелачныя працы і абсталяванне выставачных зал, без якіх вельмі складана было б распачаць экспазіцыйную дзейнасць.

**— Прадбачвалася яшчэ паставіць побач музея скансэн з вясковымі будынкамі. Канстанцін Майсеня хацеў абсталяваць праваслаўную часоўню. Ці гэта яшчэ актуальныя планы?**

— Надалей актуальныя планы пабудовы скансэна на прымузейнай плошчы. У ім магла б быць арганізавана часоўня. Але гэта планы далейшай будучыні, бо зараз няма грошай на інвестыцыі, а прыдбаныя сродкі выкарыстоўваем на бягучую музейную і культурную дзейнасць.

**— Зараз у музеі працуюць пастаянныя і часовыя выстаўкі. Што ў планах на 2013 год?**

— Плануем нашыя пастаянныя мерапрыемствы: Беларускі этнаграфічны фэст «Культура на сходах музея» і шэсць беларускіх фэстаў з цыкла «І там жывуць людзі». Будзем арганізаваць многа імпрэз у рамках праекта «Прыгранічны этнічны альянс», ладзіць выстаўкі ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Будуць таксама сустрэчы, ладжаныя нашай бібліятэкай у рамках праекта «Кірыліцай пісанае». Новая прапанова — адкрытыя дні нашай бібліятэкі.

**— Доўга вы не маглі здаць у арэнду памяшканняў, у якіх раней працаваў магазін суполкі «Унібуд».**

— Ужо больш за месяц у частцы гэтых памяшканняў дзейнічае паб „300 цэглаў», бо для яго абсталявання выкарыстаны *гістарычныя* цэглы, прывезеныя з розных месц. Яго ўладальнік прадбачвае арганізаваць у ім канцэрты, у тым ліку і беларускай музыкі, дэманстраваць фільмы і выходзіць з іншымі прапановамі, каб стварыць непаўторную атмасферу і прыцягнуць людзей. З беларускай музыкай выступаў там гурт «Veritas». Мы прадбачваем ладзіць у пабе нашыя мерапрыемствы з цыкла «Музыка без засцярог». У іншым здадзеным у арэнду нашым памяшканні вядзецца арганізаваная дзённая апека над дзеткамі і ладзяцца сустрэчы з бацькамі. Зараз і нам патрэбныя новыя памяшканні для тэхнічнай працы.

**— Як Вы трапілі ў Беларускі музей і ці зараз адчуваеце, што робіце тое, чым раней хацелі займацца ў жыцці?**

— Я — выпускнік Гайнаўскага белліцэя. Калі я быў яшчэ студэнтам на спецыяльнасці анімацыя культуры ў Варшаўскім універсітэце, то пачаў з сябрамі ладзіць этнаграфічныя выстаўкі, паказваць фільмы, арганізаваць канцэрты, між іншым, беларускай музыкі. Я таксама выступаў у беларускіх гуртах. Калі я закончыў вышэйшую адукацыю і пачаў шукаць працу, то мне работа ў музеі, як аніматару беларускай культуры, вельмі падыходзіла. На пасадзе дырэктара прадбачваю арганізаваць беларускія мерапрыемствы і ёсць магчымасць надалей ладзіць музейныя выстаўкі, якія паказваюць жыццё беларусаў у мінулым. З вялікім задавальненнем займаюся беларускімі справамі, а музей стаў мне і жонцы беларускім домам. Ёсць у нас надзея, што наш Беларускі музей будзе цэлы час разгортваць музейную і культурную дзейнасць.

**— Дзякую за размову.**

Гутарыў Аляксей МАРОЗ

# Незвычайныя велікодныя я й к і



Надвор'е на Вялікдзень бывае рознае. Часам замест вясновага цяпла сустракаюць нас зіма ды снег. Аднак нязменнае тое, што яйка з'яўляецца сімвалам Уваскрэсення. Велікодныя яйкі пераважна фарбуюць на розныя колеры або аздабляюць узорамі. Аднак мой муж, Дарэк Вашчынскі, прыдумаў іншы спосаб упрыгожвання яек.





Ён выдзьмухоўвае яйкі і размалёўвае іх акрыльнымі фарбамі і на заканчэнне забяспечвае лакам вернікс. Такім чынам паўстаюць яйкі-жывапісы з біблейскімі сцэнамі, звязанымі з Вялікаднем. Але не толькі.

працяг ☞ 4





# Агонь без дыму

Чарговы Чарнобыльскі шлях у беларускай сталіцы прайшоў не толькі пад пільнай увагай сілавых структур, але, па ўжо сталай беларускай традыцыі, не абышоўся і без затрыманняў, не прайшоў без пратаколаў і судоў. Якая там розніца, дазволеная была ўладамі акцыя ці не дазволеная. Людзі павінны ведаць, што хадзіць на яе нельга. Ну а хто прыйдзе, мусіць ведаць на што ён ішоў. І здзіўляцца, што пацярпеў, няма чаго. Маўляў, радавацца трэба, што і так усё абышлося дастаткова бяскрыўдна ў параўнанні з маштабамі той бяды, якую прынесла сама чарнобыльская катастрофа. Зрэшты, ніхто і не здзіўляецца. Ні пацярпелыя, ні іх абвінаваўцы. Усе ведалі заранёў, што так яно і будзе як сталася. Нават чакалі горшага.

Катастрофа. Слова, якое мусіць насцярожыць кожнага чалавека. І таго, што выйшаў на шэсце, і таго, каму загадалі пільнаваць таго, хто выйшаў. Але чамусьці не ўсе прымяраюць на сябе гэтую кашулю, якая называецца чарнобыльская трагедыя. Ёсць людзі, якія ўпэўненыя, што іх гэта не тычыцца, што на іх не распаўсюджваюцца непарушныя законы фізікі, як не распаўсюджваюцца тыя законы, якія прапісаныя ў беларускім заканадаўстве. Ну але зараз не пра гэтых людзей. Не ў іх справа.

Сённяшняя сапраўдная катастрофа ў тым, што ўсё большая частка беларускага грамадства перастае адчуваць вострую небяспеку ад тых наступстваў, якія прынёс і працягвае прыносіць Чарнобыль. І, згубіўшы пачуццё небяспекі, перастае ратавацца ад гэтай бяды. І ўжо перастае разумець тых, хто ратуецца сам і ратуе іншых, менш устрывожаных гэтай праблемай суайчыннікаў.

І склалася такая сітуацыя не таму, што беларусы па характары сваім маюць заніжанае пачуццё самазахавання. Галоўная прычына такой безадказнасці да свайго лёсу, лёсу сваіх дзяцей і нават сваёй нацыі, знаходзіцца ў адсутнасці ўсялякай інфармацыі, звязанай напрамую ці ўскосна з чарнобыльскай трагедыяй.

А хаваць ад нас праўду сталі адразу пасля аварыі. Людзей нават не папярэдзілі, каб яны пачалі прымаць адмысловыя прэпараты, якія могуць змякчыць наступствы радыяцыі на здароўе. Наадварот. Людзей гвалтам выганялі на першамайскія дэманстрацыі пад забойчае сонца. Казалі, што нічога страшнага не здарылася і няма чаго панікаваць. А тое, што варта піць ёд, мы даведваліся толькі з вуснай інфармацыі, калі нехта са знаёмых даводзіў, што так робяць яго суседзі з ліку савецкай наменклатуры. Бо тых, сваіх, савецкія ўлады навучылі як ратавацца. Навучылі па сакрэце ад нас. А нам расказвалі пра радыяфобію, якая нібыта страшней за саму радыяцыю. Маўляў, бывае страх перад радыяцыяй без самой радыяцыі, а дым без агню. А насамрэч гэта быў агонь. Радыяцыйны агонь, які цяжка ўгледзець. Бо ён не мае дыму.

Беларусы не тое што паверылі, што нічога страшнага не адбылося. Ніхто не паверыў. Тым больш, што многія пабачылі на свае вочы пакуты і смерць людзей ад гэтай трагедыі. Нават афіцыйная статыстыка спачатку вымушана была назваць некаторыя лічбы. І хоць яны былі значна падкарэктаваныя, ды ўсё адно страшныя. Але адсутнасць усялякай негатыўнай інфармацыі ў далейшым проста прытупіла адчуванне ўсёй вастрыні і трагічнасці гэтай праблемы.

Цікава, каму і навошта гэта патрэбна? Зразумець тых людзей, якія давалі з Крамля злачынныя загады выганяць людзей пад радыяцыйныя промні, або пасадзіць небяспечныя хмары на беларускую зямлю, зразумець можна. Хоць яны і не баяцца людскіх праклёнаў, але не хочуць выплачваць кампенсацыю пацярпелым і аплачваць лячэнне хворым. Немажліва зразумець людзей у сённяшняй незалежнай Беларусі, ад волі якіх залежыць раскрыццё ўсёй праўды пра Чарнобыль.

Ну а пакуль што невялікая колькасць людзей, ведаючы пра абавязковыя затраманні, усё ж выйшла нагадаць астатнім пра адну з галоўных праблем беларусаў. Многія маглі да іх далучыцца. Але адны забаяліся, другія не захацелі. А многія не змаглі далучыцца, хоць можа і хацелі б. Не змаглі таму, што іх ужо няма. Іх забраў Чарнобыль.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Святы на фоне крыважэрнага свету

Ужо на світанку чалавецтва агрэсію мужчын пацыфікавалі больш строгія стандарты паводзін, нормы звычаёвага права, табу. У гэты інтуітыўны спосаб чалавечыя істоты абараняплі калектыўныя інтарэсы, паколькі абавязваючая ўсіх сістэма забарон і абавязкаў давала большую гарантыю на выжывальнасць усяго чалавечага статку. Гэта датычыла племянных груп, і калі яны ператварыліся ў народы, склалі сабе яшчэ больш складаныя прынцыпы закону, абараняючага так нацыянальную асаблівасць дадзенага збору людзей (з яго генетычным, цывілізацыйным і культурным патэнцыялам), як і творчы патэнцыял асобы. Гэтая сіметрыя паміж інтарэсамі нацыі і жыццёва важнымі інтарэсамі кожнага чалавека перанеслася да ўсяго цывілізаванага свету, дзякуючы чаму яго глабальны лад даволі доўга заставаўся ў адноснай раўнавазе. Да часу, аднак.

Шаленства чалавека заключаецца якраз у тым, што чым больш ён хоча свядомасцю вызначыць расплывістае эсхаталагічнае існаванне, тым больш стварае дапаможных ідэй, якія маюць ажыццяўляць яго больш ці менш апраўданае існаванне. І чым больш ідэй, тым больш хаосу ў свеце. За ідэі спрачаемся ў імя ідэі і яе адзіных законных правоў, пачынаем рэвалюцыі, і тыя — спалучаючы агульным крывацёкам неачэсаны ў масе зброд, пабуджаючы яго адрэналінам роўнасці, братэрства і справядлівасці — пажыраюць сваіх дзяцей. Ідэі, праўда, прыгожыя, але ці магчымыя для рэалізацыі ў нашым свеце? Міф аб Кронасе, пажыраючым сваіх дзяцей, цёмнага прабажаства, у якім увасабляюцца найпершасныя чалавечыя інстынкты, найбольш поўна раскрывае архетыпічнае паходжанне людскіх ідэй ...

Ідэя, здавалася б, нявінная, што быццё вызначае свядомасць, ініцыявала канцэрагенны працэс змен у глабальным маштабе, што мы бачылі на прыкладзе бальшавізму. Мабыць, мы мудрэйшыя з пакалення ў пакаленне, але змрочныя наступствы ленінскай ідэалогіі нічога нас не навучылі. Паявіліся новыя ўспышкі захворванняў, фашызм, анархізм і тэраризм сярэдзіх у Еўропе, зверства чырвоных кхмераў у Камбоджы ці мусульманскі фундаменталізм. І трэба памятаць пра генацыд у Руандзе, Судане, Цэйлоне і Малайзіі, пра талібаў у Афганістане, Аль-Каідзе і тысячы іншых жахлівых лакальных ідэалогій. Усе яны — доказ канцэрагенных сігналаў змен у структуры чалавечай цывілізацыі.

Як гэта бывае, што ідэя ператвараецца ў адзінаслушную ідэалогію, а тая ў абавязваючае правіла? Што так лёгка яна прысвойвае сабе свядомасць мас і ставіць іх магутным фронтам перад тымі, хто нязгодны з ёй? Ці таго прычынай з'яўляецца агрэсія, усталяваная (Прыродай або Богам?) у генетычны код кожнага чалавека, ці, глыбей: у яго хімію? Праўда, часам справа даходзіць да спантаннага распаду, і гэта ёсць час, вельмі кароткі, калі людзі могуць дазволіць сабе незалежны ад агрэсіі одум. І з гэтай рэфлексіі я, па меншай меры, не малюю аптымістычных высноў.

Дрожджы ідэалагізму надалей ферментуюць у чалавечых чарапах, размнажваюцца галавакружнымі тэмпамі, шукаюць тут і там усё новых і новых абшараў для свайго канцэрагеннага экспансіянізму. Неўзабаве зоймуць апошнюю вольную ад іх прастору — рэлігію. Хопіць паслухаць мудрацоў з Радыё Марыя — гэта не проста мясцовая тэндэнцыя. А Гісторыя старанна запісвае ж усе рэлігійныя войны і ідучыя за імі пажарышчы. Ці былі гэтыя войны строга рэлігійнымі ці проста былі войнамі за панаванне адных над іншымі, прыўкрашанымі ў рэлігійныя пёркі? Гэта проста рытарычнае пытанне. На гэты раз, аднак, рак квазірэлігійных антаганізмаў пагражае свету татальнай катастрофай. Хто яе зафіксуе?

Закон вады, якая імкнецца быць роўнай на ўсёй сваёй паверхні, можам аднесці да сучаснай цывілізацыі. Прытым гэта ўжо не цывілізацыя мяча і панцыра з ліставога металу, а самых сучасных ваенных тэхналогій. У адпаведнасці з законам вады, ядзерная або бактэрыялагічная зброя распаўсюджваецца па ўсім зямным шары. Мабыць, яна ўжо ў рэсурсах мусульманскіх краін. Будучыня чалавецтва вырысоўваецца сапраўды ў чорным колеры. Чалавечая бестыя, як была крыважэрнай, такой і засталася, па-ранейшаму поўная ганарлівасці, пагарды і эгаізму. Але хопіць пра гэта, свята за дзвярыма. Дык — святкуйма!

**Міраслаў ГРЫКА**

Вачыма еўрапейца

# Цуд-парад



Калі ў пятніцу (26 мая), разам з дзесяткамі вяртаючыхся з працы ехаў я з дома ў цэнтр Беластока, нечакана для многіх пасажыраў аўтобус паехаў іншым шляхам чым звычайна. У тым часе з будынка Падляшскай оперы і філармоніі адпраўляўся парад (дзве з паловай тысячы ўдзельнікаў), арганізаваны Ваяводскім асяродкам анімацыі культуры па задуме падляшскага віцэ-маршалка Яцка Пярунка з нагоды 500-годдзя ваяводства. Я згадаў пра яго ў адным з красавіцкіх нумароў «Нівы». Двое пажылых людзей, занепакоеных зменай маршруту аўтобуса, спыталіся стаяўшых побач падлеткаў:

— Што гэта адбываецца?

— Хм! Я не ведаю. Верагодна, нейкая працэсія, — сказала маладая дама.

— Сапраўдныя цуды! — падагуліла бабуля.

Фальклорныя калектывы, у тым ліку беларускай меншасці, рэканструкцыйныя групы, кавалерыйскія эскадроны, мажарэткі, духавы аркестр, гусары, кароль у сваёй карэце і невядома чаму прэзідэнт Ломжы ў экіпажы, коннікі з Ядвабнага і да г.п. пераліваліся перад ратушай, а з імі гмінныя і павятовыя ўлады. У першым шэрагу ішлі ваяводскія самаўрадавыя ўлады і некаторыя дэпутаты. Сярод іх быў маршалак ваяводства Яраслаў Дважанскі і прэзідэнт Беластока Тадэвуш Трускаляскі. Тыя заехалі перад ратушны пляц на багатым лімузіне з неспадзяваным госцем — прэзідэнтам Рэчы Паспалітай Браніславам Камароўскім. Удзельнікі шэсця, як калісьці на 1 Мая, махалі гледачам, і нават раздавалі ім кветкі. Многія гледачы клялі пад носам:

— Беднасць, звальненні з працы, павелічэнні аплат на вываз смецця, будуць і за цяпло, калі прыватызуюць цеплацэнтраль, афёра за афёрай, а яны цешацца.

Яшчэ больш праклінালі шафёры, стоячы ў корках, выкліканых парадам, які добра заблакаваў усе завулкі; ваколіцу оперы зачынілі ўжо да пятнаццатай гадзіны. Перад ратушай, дзе парад маршыраваў і маршыраваў, акцёры беластоцкага лялечнага тэатра інсцэніравалі акт устанаўлення Падляшскага ваяводства. Кароль Жыгімонт Стары ўручыў выбарны акт ваяводу Івану Сапегу. Пасля наступіла чарговая неспадзяванка з гістарычнага пункту гледжання. У адрозненне ад 29 жніўня 1513 года, цяпер Іван Сапега, выкруціўшыся дрэнным здароўем, перадаў сваю пасаду... Яраславу Дважанскаму.

— Тады звāць перад мой твар Яраслава Зыгмунта, ад сёння званага маршалкам, — загадаў акцёр-кароль і на сцэну ўвайшоў у касцюме радасны Яраслаў Дважанскі.

Зараз жа за ім прамовіў прэзідэнт Камароўскі, адзначаючы, што «усё ў Падляшскім ідзе ў правільным напрамку»:

— Гэта таксама 500 гадоў праверкі тут, у гэтым рэгіёне Польшчы, што з'яўляецца вялікім і прыгожым. Падляшскае ваяводства ў некаторай ступені атрымала ў спадчыну традыцыі даўніх усходніх ускраін-крэсаў Рэчы Паспалітай, традыцыі Вялікага Княства Літоўскага. Гэта можна пачуць нават у імені і прозвішчы першага ваяводы Яна, Івана Сапегі, які быў жа ж з Вялікага Княства Літоўскага. І сёння гэтае ваяводства вылучаецца асаблівым чынам гэтай прыгожай мазаікай вялікай моўнай, культурнай, рэлігійнай разнастайнасці. У гэтым яго прывабнасць.

На парадзе і ў час галоўнага канцэрта падляшская ўлада гуляла знакаміта і нічога, што некалькі гадзін раней пудзіла з тварам маршалка Дважанскага згарэла перад палацам Браніцкіх, дзе праводзіўся сход польскіх маршалкаў (адсюль і дата парада). Так пратэставалі прадстаўнікі прафсаюзаў і энтузіясты чыгункі, якія патрабавалі рамонту пуцей і супрацьставіліся ліквідацыі маршрутаў. Але ў рэшце рэшт, моцна спасылаючыся на традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, на Падляшшы мы можам рухацца на конях.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**У днях 26-28 красавіка прайшлі галоўныя ўрачыстасці 150-годдзя Студзеньскага паўстання на Беласточчыне. 26 красавіка адбылася прысвечаная падзеі міжнародная папулярна-навуковая сесія ў Гарадоцкім цэнтры культуры імя Кастуся Каліноўскага, а ў два наступныя дні праходзілі ўрачыстасці на месцы першага збройнага сутыкнення ва ўрочышчы Перацёсы, якое разыгралася 29 красавіка 1863 года.**


Дакладчыкі Вячаслаў Швед, Лена Глагоўская і Сяргей Токць ды дырэктар ГЦК Юры Хмялеўскі

працъ паўстанцаў. Былі сялянскія выказванні, што калі б ім далі ружжо, то яны самі здушылі б тое паўстанне. На вялікі жаль, не захаваліся ўспаміны сялян і складана меркаваць пра іх матывацыю. Усё ж такі 795 сялян былі сасланы з Гродзенскай губерні ў Сібір; найбольш з яе заходняй часткі: 228 з Бельскага павета, 187 з Беластоцкага і 76 з Сакольскага.

У пазнейшай дыскусіі прафесар Дабронскі заўважыў, што да паўстання далучыліся каля дзесятка расійскіх афіцэраў з беластоцкага гарнізона. Матывацыя іхняя невядомая, аднак яны прыдаліся паўстанцам. Прафесар Дабронскі яшчэ дадаў заўвагу, што Студзеньскае паўстанне, магчыма, выратавала Злучаныя Штаты Амерыкі.


Шэсце да ўскладання вянкоў: на першым плане Валянцін Карыцкі, Дарыюш Пянткоўскі і Роберт Тышкевіч


Удзельнікі рэканструкцыі бітвы ў Перацёсах

# Юбілей Студзеньскага паўстання

Даклады ў Гарадоцкім цэнтры культуры зачыталі вучоныя з Беластока і Гродна. Прафесар Адам Чэслаў Дабронскі з Універсітэта ў Беластоку расказаў пра асаблівасці паўстання ў межах былой Беластоцкай акругі. Дакладчык адзначыў, што Студзеньскае паўстанне ўспыхнула ў безнадзейных абставінах, працягвалася найдаўжэй і прынесла агромныя ахвяры і рэпрэсіі. Але каб не яно, не было б і Лістапада 1918 года — абвяшчэння незалежнасці Польшчы. Беластоцкая акруга знаходзілася ў той час навонкі Польскага Каралеўства, была падвергнута большай русіфікацыі і тут паўстанне выбухла значна пазней, чым на захадзе ад яе. Першыя сутыкненні былі сюды занесены звонку, з-за Буга. Ды і паўстанцы не атрымалі належнай падтрымкі з боку насельніцтва — у раёне Кнышынскай пушчы людзі ставіліся да паўстанцаў прыхільна, але з прыхільнасцю звычайнай, гуманнай, не ўспрымаючы ідэі змагання.

Прафесар Юзэф Марошэк, таксама з Беластока, расказаў пра Мастаўляны, дзе 2 лютага (21 студзеня паводле юльянскага календара) 1838 года нарадзіўся Кастусь, як адно з семнаццаці дзяцей Веранікі і Сымона Каліноўскіх. Бацькі будучага кіраўніка паўстання не былі ўласнікамі маёнтка ў Мастаўлянах, толькі арандавалі яго, але там ён узрастаў. Хрысцілі яго ў касцёле ў Ялоўцы, дзе пазней маліліся паўстанцы. Неслі яны на вуснах прарочы верш Северына Гашчынскага: *Sadźmy, przyjacielu, róże! /Długo jeszcze, długo świata /Szumieć będą śnieżne burze: /Sadźmy je przyszłemu latu! //My, wygnańcy stron rodzinnych, /Może już nie ujrzym kwiatu, /A więc sadźmy je dla innych, /Szczęśliwszemu sadźmy światu! //Jakże los nasz piękny, wzniosły! /Gdzie idziemy, same głogi, /Gdzieśmy przeszli — róże wzrosły, /Więc nie schodźmy z naszej drogi! //Idźmy, szczepmy! Gdy to znużу, /Świat wiecznego wypocznienia /Da nam milszy kwiat od róży: /Łzy wdzięczności i wspomnienia.*

Доктар Лена Глагоўская з Універсітэта ў Беластоку расказала пра месца Кастуся Каліноўскага ў свядомасці жыхароў Беласточчыны. Дарэчы, дарога Кастуся Каліноўскага ў тую свядомасць гэта даволі працяглы працэс і пачаўся ён даволі позна. Вось у 1930 годзе кіраўніцтва Таварыства беларускай школы выступіла з заклікамі адчыніць у Мастаўлянах беларускую школу і арганізаваць там гуртох ТБШ; гурткі такія існавалі ў навакольных мясцовасцях: Свіслачы, Дабраволі, Раманаўцы, а ў Мастаўлянах такога гуртка не было. Да таго часу Кастусь Каліноўскі па сутнасці не быў прысутны ў агульнай памяці беларусаў. Першы артыкул пра яго, „Памяці справядлівага", апублікаваў Вацлаў Ластоўскі ў 1916 годзе ў „Гомане". Чарговы артыкул „Хто быў Кастусь Каліноўскі?" напісаў ксёндз Уладыслаў Талочка ў 1919 годзе. У 1933 годзе, пад 70-я ўгодкі Студзеньскага паўстання і 15-я ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, ксёндз Адам Станкевіч апублікаваў першае навуковае даследаванне, прысвечанае Кастусю Каліноўскаму як гістарычнай постаці: „Кастусь Каліноўскі: «Мужыцкая праўда» і ідэя незалежнасці Беларусі". Такая пастаноўка справы — уключэнне Каліноўскага ў кантэкст незалежнасці Беларусі — абурыла частку беларускай эліты, м.інш. братоў Луцкевічаў і Хведара Ільяшэвіча. Але зацікаўленне асобай кіраўніка Студзеньскага паўстання расло. У Вільні ў 1933 годзе Пётра Сергіевіч напісаў партрэт Кастуся Каліноўскага, змешчаны ў часопісе „Калоссе". У Другую сусветную вайну Язэп Найдзюк апублікаваў артыкул пра паўстанне 1863 года і змаганне Кастуся Каліноўскага за незалежнасць Беларусі. А Хведар Ільяшэвіч рашуча змяніў сваё стаўленне, доказваючы цяпер, што Кастусь Каліноўскі першым падняў сцяг беларускага змагання за сваю праўду, за сваю Бацькаўшчыну. Шмат увагі кіраўніку Студзеньскага паўстання прысвячала „Новая Дарога"...

Закончылася Другая сусветная вайна і прапала „Новая Дарога", якой людзі пазбываліся са страху перад новай рэчаіснасцю. Але памяць жыла. Францішак Берніковіч, які ў радах Беларускай краёвай абароны змагаўся супраць АК на Дзісеншчыне, а пасля вайны апынуўся ў Польшчы, у Сядлісках каля Гіжыцка, у „Ніве" ад 15 верасня 1957 года апублікаваў артыкул „Дастойна ўшанаваць памяць Кастуся Каліноўскага". Пісаў ён: „Уся яго дзейнасць ад пачатку да канца служыла інтарэсам беларускага народу і таму імя Кастуся Каліноўскага, вялікага нашага рэвалюцыянера-дэмакрата дарагое кожнаму беларусу. Тым больш дарагі ён нам, беларусам — жыхарам Беластоцкай зямлі, дзе правёў ён свае маладыя годы і пачаткі грамадска-палітычнай дзейнасці. Кожны культурны народ ушаноўвае памяць сваіх лепшых сыноў. Робяць гэта палякі, робяць гэта і іншыя народы. Ці можам мы, беларусы, не памятаць аб сваім героі і не ўшанаваць яго памяці? Хіба не!".

Не трэба было доўга чакаць. Ужо 20 студзеня 1958 года ў Беластоку былі створаны Камітэт ушанавання памяці Кастуся Каліноўскага, які ачоліў старшыня Ваяводскай рады нарадовай Станіслаў Юхніцкі. „Пастаноўлена назваць імем К. Каліноўскага новапабудаваную школу ў Мастаўлянах, дзе ён нарадзіўся і ўстанавіць там мемарыяльную дошку. Пастаноўлена звярнуцца да Прэзідыума Гарадской рады нарадовай у Беластоку, каб адну з вуліц у горадзе назваць ім. Кастуся Каліноўскага. Вырашана таксама распачаць дзейнасць дзеля атрымання сродкаў на пабудову помніка Кастусю Каліноўскаму ў выглядзе Дома народнай творчасці, дзе б гуртавалася праца польскіх і беларускіх самадзейных калектываў і ладзіліся б іншыя культурныя мерапрыемствы" — пісала „Ніва".

На ўрачыстую інаўгурацыю 1958/59 навучальнага года ў новай школе паехаў у Мастаўляны Сакрат Яновіч. Напісаў ён: „Пачатковай школе ў Мастаўлянах яшчэ не прысвоена імя Кастуся Каліноўскага. Гэтая ўрачыстасць мела адбыцца 2 верасня г.г. Аднак тут нібы перашкодзіла рэарганізацыя Аддзела культуры ў Беластоку". Урачыстасць адбылася 22 ліпеня 1959 года пры нагодзе святкавання 15-годдзя ПНР. Імем Кастуся Каліноўскага была названа беластоцкая вуліца Новасасновая. На дом культуры сабрана 141 тысячу злотаў: сто тысяч дала беластоцкая Гарадская рада, дваццаць тысяч беластоцкая спулдзельня ПСС і 21 тысячу дакінула наша грамадства. Тадышняя залатоўка каціравалася больш-менш так як і сённяшняя і тых сродкаў было замала; пазней яны былі пералічаны на пабудову Гарадоцкага дома культуры, які і атрымаў імя Кастуся Каліноўскага.

Прафесар Вячаслаў Швед з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы расказаў пра падзеі на Гарадоцкай зямлі ў 1860-х гадах, а Сяргей Токць, таксама з Гродна — пра стаўленне сялян Гродзенскай губерні да паўстання. А роля сялян была не абы-якая. Дзеянні ў 1863-64 гадах былі па сутнасці партызанскай вайной, дзе неабходная падтрымка насельніцтва. Сяляне склалі каля пяціны ўдзельнікаў паўстання, а рэшту шляхта або выхадцы з яе; на той час шляхта складала каля пяці адсоткаў насельніцтва беларускіх земляў. І хаця царскай зямельнай рэформай 1861 года сяляне былі незадаволены, аднак класава-канфесійныя падзелы, узмоцненыя царскай прапагандай, настаўлялі сялян супраць паўстанцаў. Справа ў тым, што ў 1861-65 гадах ішла там грамадзянская вайна і англічане разважалі магчымасць умяшальніцтва ў яе з мэтай вяртання свайго там панавання. Толькі вось у Польшчы ўспыхнула паўстанне і тут французы разважалі сваё ўмяшальніцтва, каб паслабіць Расію. Англічане былі насцярожаны сачыць за падзеямі ў Еўропе, а за той час вайна ў Амерыцы завяршылася...

Лена Глагоўская прыгадала, што ў 1968 годзе Аляксей Карпюк запісаў і апублікаваў у „Ніве" ўспамін-легенду пра Кастуся Каліноўскага ад жыхара Мастаўлян *дзядзькі* Гардкевіча: „Гаварылі мне, што Кастусь Каліноўскі нарадзіўся ў чвараку, дзе жыло некалькі сем'яў батракоў. Бацька Кастуся ткаў дываны пану і на ваколіцу. Кастусь вучыўся ў свіслацкай семінарыі. Потым Кастусь пайшоў вучыцца далей і ў Мастаўлянах амаль не паказваўся. Адно памятаю добра, што татка гаварылі, калі пачаўся мяцеж, дык вёска Мастаўляны была падазронай, і што нават стралялі па мяцежніках. Калісь Мастаўляны былі гандлёвым цэнтрам. Тры ці чатыры разы ў год адбываліся тут таргі. З'язджаліся сюды людзі з цэбрамі, бандаркай, а нават прадаваліся булачкі, а займалі плошчу аж па могілкі. Адсюль гэтае месца да сёння называецца *мястэчкам*".

Пра местачковасць Мастаўлян згадваў і прафесар Марошэк. Да 1795 года мясцовасць называлася Каралеўскім Мостам. Там каралева Бона была задумала заснаваць горад, які ў гонар яе мужа меў называцца Зыгмунтовам...

У Перацёсах адбылося афіцыйнае ўшанаванне паўстання 1863 года. У ходзе імшы, з удзелам беластоцкага арцыбіскупа Эдварада Азароўскага, прапаведнік прывёў ацэнку Студзеньскага паўстання прымасам Стэфанам Вышынскім: Сейбіт вяртаецца з поля з пустым, здавалася б, мяшком. Але ён з таго мяшка пасеяў зерне, якое дасць плён у будучыні. Прапаведнік падкрэсліў, што паўстанне было карысным і захопнікам, бо яно і ў іх прабудзіла дух свабоды.

На магілу 32 пахаваных там паўстанцаў былі ўскладзены кветкі, адбыліся м.інш. канцэрты патрыятычных песень ды рэканструкцыя тамашняй бітвы. Мерапрыемства ўдастоілі парламентарыі ды ваяводскія, лясныя і гмінныя чыны, а адбываліся яно пад ганаровым патранатам прэзідэнта Рэчы Паспалітай Браніслава Камароўскага.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞праця́г

## Велікодныя яйкі

На пытанне, з чаго пачалася прыгода з велікоднымі яйкамі, Дарэк адказвае: „З кахання... На пачатку знаёмства з жонкай я атрымаў ад яе на Вялікдзень яйка з каляровымі ўзорамі і надпісам «Хрыстос Уваскрос». Каб не быць даўжніком, я падрыхтаваў Эве яйка-выдзіманку ў чырвона-белыя паласкі".

У наступныя гады мы пачалі рыхтаваць выдзіманкі ды іх аздабляць супольна. Пачаткова гэта былі больш традыцыйныя ўзоры. Але аднойчы Дарэк паспрабаваў намаляваць Уваскрэслага Хрыста, ангела пры магіле, Іону і кіта. Пазней прыйшлі іншыя ідэі — часам на малюнках можна было знайсці нас абое сярод людзей, якіх вядзе Ісус, апрача ілюстрацый з'явіліся фрагменты тэкстаў з Евангелля. У час святочных сямейных сустрэч мы гэтымі пісанкамі абдароўвалі нашых блізкіх. Перад Вялікаднем 2011 года, калі ўжо мы святкавалі разам з нашым сыночкам, малюнкі былі звязаны з радасцю быцця бацькамі — было дзіця ў матчыным жываце, ды нашая маленькая сям'я з трох чалавек.

— Дык потым я падумаў, што мне вельмі добра малюецца на яйках. Чаму ж не маляваць на іх увесь год адвольныя вобразы. Яйка гэта ўвогуле цікавы субстытут палатна, ды адначасова таннейшы за яго, — пасмейваецца «яйкапісец». — Яно не мае бакоў, абмежавання, як традыцыйнае палатно. Дык гэта ж маленькая сфера, ягоная паверхня бясконечная. Можна сказаць, што пачатак карцінкі з'яўляецца адначасова яе канцом. Як тады распланаваць малюнак, каб усё было натуральна? Як размясціць, краявід, які на звычайным палатне ці фатаграфіі завяршаецца чатырма бакамі? Вось гэта цікавыя пытанні для маёй мастацкай душы. Вобраз размаляваны на яйку ўзбуджае зацікаўленне. Калі глядзіш на адзін бок, не бачыш другога боку. Трэба яго ўзяць у руку і павярнуць наўкола, каб пабачыць цэласць. І таму фатаграфіі такіх пісанак не перадаюць цэлай жывой прыгажосці такога мастацтва. Такім чынам паўстала настальгічная варшаўская серыя з помнікамі Шапэну, Малому паўстанцу, Сірэнцы ды іншым. Але апрача тугі па сталіцы паявіліся ў рэшце рэшт і белавежскія матывы. Абавязкова зубры. Цікавасць да гісторыі падказала мне размаляваць царскі палац, царкву ды даўняе паляванне. З'явіўся царскі герб Белавежы. Патрыятычныя пачуцці падказалі намаляваць партрэты Балаховіча, Пілецкага..., — расказвае мастак.

У тым часе з'явілася інспірацыя сусветным жывапісам. Паўсталі яйкі з рэпрадукцыямі вобразаў Вінцэнта ван Гога, Станіслава Выспянскага, Клода Манэ.

І вось велікодная традыцыя ператварылася ў жыццёвае хобі, у спосаб мастацкага выразу. У час апошніх Каляд незвычайныя пісанкі, напрыклад, упрыгожвалі нашую ёлку. Дык апошняе яйка размалявалі супольна муж з сынам. Што ж знойдзецца на наступных яйках? Час пакажа.

**Тэкст і фота Эвы ВАШЧЫНСКАЙ**
**Аўтар пісанак Дар'юш ВАШЧЫНСКІ**

# Рашэнне з даверам службам



**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

**Пасля дванаццаці гадоў, спачатку экстрадыцыйнай працэдуры, а пасля крымінальнага працэсу, на тры гады пазбаўлення волі, 15 тысяч злотых штрафу, забарону на выезд з Польшчы і пакрыццё судовых выдаткаў Акруговы суд у Беластоку ў апошні дзень красавіка прысудзіў пры адсутнасці канчатковага рашэння Андрэя Жукаўца, які абвінавачваўся ў махлярстве ў атрыманні амаль 700 тысяч долараў крэдытаў у двух беларускіх банках.**

Суд даў поўную веру доказным матэрыялам, дасланым беларускім правасуддзем, і сведкам, дапытаным у Беларусі, таксама ў прысутнасці польскіх пракурораў і суддзі, які канчаткова вынес рашэнне. Абвінавачванне запатрабавала двух гадоў пазбаўлення волі, з адтэрміноўкай на пяць гадоў, 25 тысяч злотых штрафу і абавязацельства па выплаце кампенсацый банкам. Абарона патрабавала апраўдальнага прысуду. Пасля абвяшчэння прысуду сам адказчык прадбачыў апеляцыю.

Андрэй Жукавец ад пачатку следства і працэсу не прызнаваўся да абвінавачанняў і сцвярджаў, што доказы, прадстаўленыя ў Беларусі супраць яго, сфабрыкаваныя і што гэтая справа звязаная з яго дзейнасцю ў антылукашэнкаўскай апазіцыі. Па словах суда, увесну і ўвосень 1994 года ў Мінску, у якасці дырэктара і акцыянера адной з кампаній, дзейнічаючы ў мэтах дасягнення фінансавай выгады, адказчык выкарыстаў падробленыя дакументы для мытнага і гандлёвага пагаднення з кампаніяй, якая мела сваю сядзібу ў Рызе. Меў ён увесці ў зман банкі і некарысна распараджацца грашовымі сродкамі на шкоду Белпрамстройбанка і Беларусбанка. Справа знаходзілася на разглядзе польскім судом пасля таго як Андрэй Жукавец збег з Беларусі. Выдадзены быў ордэр на яго арышт. Польскія органы не выдалі Жукаўца беларускаму боку пасля экстрадыцыйнага працэсу ў 2001 годзе. У чаканні прысуду ён правёў 85 дзён у арышце. У сувязі з магчымасцю яго выдварэння на працягу 32 дзён на знак пратэсту адмовіўся ён прымаць ежу.

## Акалічнасці без значэння

Яшчэ да абвяшчэння рашэння Раённага суда ў размове з «Нівай» Андрэй Жукавец прызнаўся, што ён не верыць у апраўдальны прысуд. Суддзя Шчэнсны Шыманскі амаль гадзіну абгрунтоўваў прысуд. У справе аднаго з пацярпелых банкаў прызначыў пакаранне на два гады і шэсць месяцаў, у другой — на два і восем месяцаў (у агульнай складанасці на... тры гады).

Вуснае абгрунтаванне суддзя пачаў з агаворкі:

— Ключавое пытанне гэтай справы заключаецца ў ацэнцы сумленнасці доказаў, сабраных у Беларусі беларускімі праваахоўнымі органамі. Паколькі абвінавачаны вёў актыўную палітычную апазіцыйную дзейнасць, накіраваную супраць беларускіх улад, трэба было ўлічваць ці доказы ў Беларусі з'яўляюцца сумленнымі і заадно верагоднымі, ці ўяўляюць сабой падробку, падман з боку беларускіх службаў. Рашэнне з'яўляецца вынікам пераканання суда ў тым, што доказы, сабраныя ў Беларусі, вартыя даверу і заадно верагодныя.

Суддзя нагадаў, што Апеляцыйны суд у Беластоку ў сакавіку 2002 года выдачу Андрэя Жукаўца па патрабаванні беларускіх улад палічыў законна недапушчальнай, але згодна з польскім законам справа абвінавачанняў павінна быць разгледжана ў Польшчы:

— Патрабуе гэтага прынцып міжнароднай салідарнасці і ён кажа, што вінаватыя ў здзяйсненні крымінальных злачынстваў не могуць абмінуць пакарання з-за гэтага, што іх дзейнасць палітычная, нават калі ў сваёй краіне падвяргаюцца пераследу. Адмова выдачы абвінавачанага не азначала яго беспакаранасці, і толькі абавязак правядзення сумленнага судовага разбору.

Падкрэсліў, здзіўляючы некаторых назіральнікаў працэсу:

— Суд пагадзіўся са сцвярджэннем, што ў Беларусі дайшло ўжо да пратэрмінавання каральнасці гэтага злачыннага дзеяння. Пры тым, гэты факт не мае значэння. Закон аб пратэрміноўцы з'яўляецца інстытутам матэрыяльнага крымінальнага права, у тым ліку беларускага крымінальнага права, абазначае толькі немагчымасць прыцягнення вінаватага да адказнасці. Тым не менш, гэтае дзеянне не перастае быць злачынствам. Злачынства было злачынствам у момант яго здзяйснення, ёсць ім і цяпер і пасля тэрміну даўнасці злачынства, толькі што там можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Гэта толькі негатыўная перадумова працэсу, а не акалічнасць, якая вырашае аб тым, што акт не з'яўляецца злачынствам. Суд можа прымаць пад увагу адрозненні паміж польскім законам і замежным правам на карысць вінаватага, але ў яго не было такога абавязацельства і гэтага адрознення ў карысць абвінавачанага не ўлічыў (...). Аснаванне рашэння на беларускія прынцыпы датычныя састарэласці іску было б аснаваннем рашэння на замежным крымінальным праве, а не на польскім. Такое рашэнне было б неэтазгодным.

## Беларусы не фальсіфікавалі

Суддзя Шыманскі спаслаўся на выказванні Андрэя Жукаўца з судовых працэсаў і спаслаўся на думку консультанткі:

— Ён лічыў, што ўвесь доказны матэрыял амаль поўнасцю быў сфальсіфікаваны беларускімі праваахоўнымі органамі з-за яго палітычнай дзейнасці і яны хацелі выкарыстоўваць гэтыя матэрыялы для рэпрэсавання. Суд аналізаваў дакументы і доказы ў сувязі з гэтым ды прыйшоў да высновы, што фальсіфікацыя доказаў не адбылася. Сучасныя тэхналогіі дазваляюць размнажэнне дакументаў. З іншага боку, дазваляюць адрозніваць дубляваны дакумент ад першапачатковага. І ў любым выпадку адрозніваць подпіс, які быў нейкім чынам капіраваны ад арыгінальнага, непасрэдна нанесенага на дакумент рукой чалавека, які яго падпісаў. Вядома, беларускія службы маглі фальсіфікаваць доказы, але няма такога геніяльнага фальсіфікатара, які мог бы выканаць сваёй рукой подпіс ідэнтычны з подпісам іншай асобы.

Суд таксама даў веру сведкам:

— Суд, а таксама польскія працэсуальныя органы ўдзельнічалі ў судовым апытанні сведкаў, якія далі паказанні ў Беларусі. Ні суд, ні пракуратура не выявілі ніякіх прычын, ніякіх доказаў на тое, што гэтыя сведкі далі паказанні пад прымусам. Я асабіста прымаў удзел у судовым пасяджэнні з адзінаццаццю сведкамі ў судзе Партызанскага раёна горада Мінска і суд (суддзя Шчэнсны Шыманскі — М. Х.) мог ацаніць спосаб таго як даваліся паказанні. У такой вялікай групе сведак былі б бачныя прыкметы знервавання, калі б яны давалі паказанні пад прымусам. Бачныя былі б таксама прыкметы завучэння нейкай версіі на памяць. Ніякіх падобных доказаў не назіралася. Сведкі ў большасці слаба ўжо памяталі падзеі з мінулага, аднак не выдавалі ніякіх прыкмет нервовасці, хаця, вядома, кожнае слуханне справы ў судзе нясе з сабой стрэс. На думку суда дача паказанняў пад прымусам прынесла б стрэс нашмат большы. Паколькі ні адна з прыкмет: ані вывучэнне на памяць, ані недахоп свабоды выказвання, ані якія-небудзь прыкметы нервовасці на сведках не былі бачныя, дык варта зрабіць выснову, што іх доказы былі зроблены спантанна. Не былі зроблены пад ціскам з боку беларускіх органаў у судовым разглядзе.

Успомніў аб сведках, якія жывуць у Латвіі (рыжская кампанія мела быць гандлёвым партнёрам кампаніі Андрэя Жукаўца)— «у дэмакратычнай краіне,

праця́г ☞11

# Атлас завершаны

Пад канец 2012 года выйшаў апошні том „Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны” і такім чынам завяршыўся навуковадаследчыцкі праект па даследаванні паўночнай часткі польска-ўсходнеславянскага моўнага памежжа. З гэтай нагоды 19 красавіка ў Беластоку адбылася прэзентацыя „Атласа...”, сарганізаваная Інстытутам славістыкі Польскай акадэміі навук і мясцовым Дзяржаўным архівам. У ходзе сустрэчы, якую вяла праф. Дарота Рэмбішэўская, аб працы над выданнем атласа расказвалі праф. Ірэна Марынякова і праф. Ян Сяткоўскі.




У Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук, які раней называўся Інстытутам славяназнаўства, з моманту яго ўзнікнення ў палове мінулага стагоддзя сістэматычна былі ведзены моўныя даследаванні розных памежных тэрыторый, у тым ліку ўсходніх. Паўночна-ўсходняя частка Польшчы, значыць цяперашняе Падляшскае ваяводства, з’яўляецца шматмоўным паграніччам, месцам стыку славянскіх гаворак: польскіх, беларускіх, украінскіх, а ў Сувальскім і Аўгустоўскім паветах знаходзяцца анклавы стараверў, якія карыстаюцца рускімі гаворкамі.

Даследаванне мовы аўтахтоннага насельніцтва Беласточчыны, якое карысталася ўсходнеславянскімі гаворкамі, ініцыявала праф. Антаніна Абрэмбская-Яблонская. Даследаванні пачаліся ў 1955 г., пачаткова ў Польска-Савецкім інстытуце, пазней у 1957 г. былі пераведзены ў Інстытут славяназнаўства. Намерам праф. Абрэмбскай-Яблонскай было зафіксаваць стан усходнеславянскіх гаворак на тэрыторыі Беласточчыны. Усім было вядома, што гаворкі падвяргаюцца вялікім зменам, што ў нейкай ступені яны знікаюць. Даследчыкі, калі вяртаюцца да мясцовасцей, у якіх калісьці вялі даследаванні, сцвярджаюць дыяметральна іншую сітуацыю.

Моўны матэрыял запісваўся ў 114 вёсках тадышняга Беластоцкага ваяводства ў адпаведнасці з раней падрыхтаваным апытальнікам, які змяшчаў каля 1700 пытанняў, падзеленых на 24 тэматычныя групы. З гэтага ліку 21 група датычыла лексікі, а 3 — граматыкі. Інтэнсіўныя даследаванні вяліся ў 1959-1963 гг. У 1971-1974 гг. сабраны матэрыял быў зверaны. Дыялекталагічны матэрыял збіралі 25 даследчыкаў, з ліку якіх найбольш даследаванняў зрабілі Станіслаў Глінка, Міхал Кандрацюк, Альжбета Смулкова і Цэцылія Ошэр-Падгурская. Сабраны матэрыял паслужыў для таго, каб метадам лінгвістычнай геаграфіі паказаць найважнейшыя рысы ўсходнеславянскіх гаворак паўночнаўсходняга Падляшша і іх лексіку.

Такім чынам у Лабараторыі беларускай мовы ПАН быў запісаны і ўпарадкаваны непаўторны моўны матэрыял. Адлюстроўвае ён стан усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны ў трэцяй чвэрці ХХ стагоддзя і ранейшага перыяду, паколькі матэрыял быў запісваны ад старэйшых людзей. Гэта гістарычны матэрыял, бо з цягам часу мяняюцца ўмовы жыцця насельніцтва і варункі функцыянавання мовы. Мае гэта месца і ў нашым выпадку, паколькі беларуская гаворка з’яўляецца ў нас сродкам зносін галоўным чынам у сямейным і суседскім крузе.

Дзякуючы прадуманай канцэпцыі збору матэрыялу і арганізацыйным талентам праф. Абрэмбскай-Яблонскай і яе супрацоўнікаў стварылася ўнікальная картатэка, якая мае вялікую навуковую вартасць. З’яўляецца яна каштоўнай і непаўторнай крыніцай ведаў аб мове ўсходнеславянскага насельніцтва, пражываючага на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы.

На падставе матэрыялаў картатэкі былі апрацаваны 10-томны „Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny” („Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны”). „Атлас...” складаецца з трох частак: фанетыка, флексія і некаторыя пытанні датычныя некаторых слоў — тамы I-III; лексіка — тамы V-X; словаўтварэнне — том IV.

Тры першыя тамы, г.зв. граматычныя, выйшлі ў 1980-1993 гг. Вельмі важны I том, у якім змешчаны, між іншым, абшырны артыкул Ежы Вісьнеўскага аб гісторыі засялення Беласточчыны, спіс даследчыкаў, вопісы даследаваных вёсак, апытальнік для збору моўнага матэрыялу.

Грамадска-палітычныя падзеі на зломе 1980/1990-х гг. паўплывалі і на змены ў Інстытуце славяназнаўства. Змянілў ён назву на Інстытут славістыкі, змянілася дырэкцыя, былі мадыфікаваны дасдедчыя прыярытэты. З Лабараторыі беларускай мовы, дзе рыхтаваўся „Атлас...”, адышлі Станіслаў Глінка і іншыя супрацоўнікі. Засталася картатэка. У красавіку 1992 г. на пасаду кіраўніка Лабараторыі ўступіла праф. Ірэна Марынякова. Прыняла яна гэтую пасаду, як сама кажа, з павагі да распачатай працы над „Атласам...”, з павагі да высілку даследчыкаў, які ўклалі яны ў стварэнне каштоўнай картатэкі ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны. Са старога калектыву даследчыкаў засталіся толькі двое: Марыя Чурак і Пётр Цэтра. Том IV, паводле справаздач і ўсеагульных меркаванняў, быў гатовы, таму пачаліся працы над томам V і чарговымі (выходзілі яны ў 1995-2009 гг.). Пасля выхаду пяці лексічных тамоў (V-X), далей заставаўся невыдадзеным том IV. Каб закончыць „Атлас усходнеславянскіх гаворак Беласточчыны”, пачаты праф. Абрэмбскай-Яблонскай у палове 1950-х гадоў, трэба было чацвёрты том напісаць, за што ўзяўся існуючы калектыў Лабараторыі. Том, прысвечаны словаўтварэнню, выйшаў у 2012 г.

Ад пачатку да канца „Атлас...” — праца аўтарская, калектыўная, са зменным складам калектыву, якім кіравалі Антаніна Абрэмбская-Яблонская (1955-1968), Ян Сяткоўскі (1968-1972), Станіслаў Глінка (1972-1974), Міхал Кандрацюк (1974-1992) і Ірэна Марынякова (1992 — да канца). „Атлас...” мае вартасць гістарычную. Пашырае ён базу матэрыялаў, якія могуць служыць для інтэрдысцыплінарных даследаванняў шматвяковага суіснавання і ўзаемапранікання культур на ўсходнім памежжы з мэтай лепшага зразумення праблемаў сужыцця і развіцця. Будзе можна яго выкарыстоўваць да разнавідных параўнаўчых даследаванняў у якасці верагоднага, поўнага і дакладнага матэрыялу.

Праф. Дарота Рэмбішэўская паінфармавала, што ўнікальная папяровая картатэка будзе дыгіталізавана, алічбаваны будуць таксама ўсе тамы „Атласа...”.

Знікаюць не толькі гаворкі. У апошніх дзесяцігоддзях зніклі з твару Зямлі некаторыя вёскі, напрыклад Боўтрыкі, гаворку якой даследавалі лінгвісты Лабараторыі беларускай мовы ПАН. Пра вёскі Рудня, Гарбары, Боўтрыкі, Лука і Буды, якія поўнасцю апынуліся на дне Семяноўскага вадасховішча, гаварыў дырэктар Дзяржаўнага архіва ў Беластоку д-р Марэк Кятлінскі. Паінфармаваў ён, што ягоная ўстанова прыдбала ад Управы меліярацыі і водазабеспячэння дакументы датычныя адчужэння 289 гаспадарак з 8 вёсак у сувязі з будовай Семяноўскага вадасховішча. Гэтымі дакументамі можна ўжо карыстацца.

**Віталь ЛУБА**

## Што можа солтыс?

Гутарыў я з солтысамі Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета. Спытаў, што зараз іх хвалюе, якія маюць праблемы і як іх вырашаюць.

Солтыс Новай Волі Ірэна Новік не мела адпаведнай дошкі аб’яў у вёсцы. Яна прарые паклапацілася і зараз мае новую.

У солтыс Гражыны Гвоздзей з Тапалянаў клопаты пра мясцовыя дарогі на сенажаці. На адной з іх паламаныя праточныя трубы. Яна не можа дачакацца дапамогі гмінных улад у гэтай справе.

Мікалай Крэнтоўскі, солтыс Сушчы, хоча мець вежу, з якой турысты маглі б паглядзець на панараму даліны ракі Нарвы з прыгожымі лугамі і надрэчным кустоўем. У вёсцы патрэбная дошка аб’яў. Неабходна памаляваць поручні на мосце цераз Нарву.

Солтыс Марыя Грыка з Бандароў намерылася актывізаваць працу Гуртка вясковых гаспадынь ды чакае рамонту трутуара ў вёсцы. Яе асаблівы клопат пра арганізацыю летняга фэсту ды конкурс „На найпрыгажэйшы балкон у блоках”.

Солтыс Леаніла Астапчэня з Ялоўкі моцна перажывае, што моладзь выязджае з вёскі ў пошуках новых перспектыў на жыццё. У Ялоўцы ёсць яшчэ крыху маладых людзей, якія ахвотна збіраюцца вечарамі ў прыгожай святліцы. Тут яны ладзяць танцавальныя вечарынкі і іншыя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

## Гайнаўскія вуліцы

Найбольш новых маставых дачакаліся вуліцы ў Гайнаўцы пасля 2000 года. І далей аднаўленне гарадскіх вуліц з’яўляецца прыярытэтнай справай.

Летам гэтага года — у ліпені і жніўні — пачнуць асфальтаванне, між іншым, вуліц Ажэшкі, Дзібуа, Пташынскага, Верпахоўскага, Лагоднай, Сонечнай і вуліцы Лясныя калейкі. На вуліцы Жвіровай пракладуць брусчатку (polbruk). Найбольш вуліц будзе аднoўленых у пасёлках Дзібуа і Мендзыторы.

Сёлета закончаць — ёсць на гэта планы — пракладку тратуара на вул. Паддольнай (да паўкіламетра) у пасёлку Пашкі. Тут шырокі тратуар — у шэсць радоў плітак. Ён толькі на адным баку вуліцы. Пад’езды на панадворкі пракладуць з чырвонай брусчаткі.

Плануюць таксама ўсталяваць новыя экраны ды завінціць энергаашчадныя электралямпачкі асвятлення на вуліцах 3 Мая, Пілсудскага, Гурнай, Беластоцкай, Спартыўнай, Бельскай, Тарговай і Верасовай.

На вышэйзгаданыя інвестыцыі гарадскія ўлады прызначылі 4 мільёны злотых.

**Я. ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Латаюць дзіркі...

Вясна — час рабіць парадкі. Гмінная ўправа ў Чаромсе ўзялася за рамантаванне дарог. Як сказаў мне намеснік войта Ірыней Леанюк, у сёлетнім бюджэце было вылучаных трыццаць тысяч злотых на жвіраванне дарог. Для гэтай мэты самаўрад заключыў дамову з гайнаўскім прадпрымальнікам Раманам Каліноўскім, які абавязаўся выканаць задачу. У выніку гэтага ўжо зараз былі папраўлены гравейкі на вуліцах Вісьнёвай, Ланковай, Прыдварцовай, Доўгай, Падлесьнай, Грунтовай, Польнай, адрэзку Спартовай і Сасновай, таксама дарогі з Пагулянкі ў Апаку-Вялікую, з Чаромхі-Вёскі ў Дашы і Кузаву ды загуменныя дарогі ў Баброўцы, Зубачах, Янцэвічах і на Тураўшчыне. „Рабілі столькі, наколькі хапіла грошай, — канстатаваў суразмоўца. — Апрача таго будзем займацца падсыпкай жвіру на лакальных дарогах пры выкарыстанні ўласнага транспарту і сваёй тэхнікі”.

**(ус)**

## Матч у ліўні

28 красавіка на спартыўнай пляцоўцы спартклуба „Калеяж” у Чаромсе праходзіў матч паміж камандамі „Ожэл” з Кляшчэляў і гаспадароў. Стаяла халоднае дажджавое надвор’е. Нягледзячы на гэта сабралася некалькі дзесятак балельшчыкаў з абодвух бакоў. У коле прысутных гасцей прыкмеціў я былога бурмістра Кляшчэляў Аляксандра Сяліцкага ды шмат чаромхаўскіх пенсіянераў-чыгуначнікаў, настойлівых фанатаў спартклуба „Калеяж”. Змаганне было заўзятае, упартае. У першай палове матч закончыўся ўнічыю 1:1, а ў другой чарамшане забілі тры галы. У рэзультаце атрымаўся вынік 4:1 у карысць спартклуба „Калеяж”. Варта адзначыць, што спаборніцтва праходзіла ў ідэальным парадку, хоць не абышлося без вострых слоў з боку балельшчыкаў у адрас арбітраў. Чулася таксама гаворка, што можа дайсці да „задымы кібoляў” абодвух каманд, паколькі паміж гэтымі спрадвечна ўзнікаюць канфлікты. Прадвяшчанне не апраўдалася. Задбалі пра гэта мясцовыя паліцэйскія, якія ўвесь час назіралі за парадкам. А чаромхаўскія балельшчыкі ў знак прызнання сваім футбалістам на развітанне скандавалі: „Dziękujemy, dziękujemy...”.

## Абяцанкі-цацанкі...

У мінулым годзе міністр адукацыі Крыстына Шуміляс заявіла, што ў наступным годзе самаўрады атрымаюць большыя датацыі, з якіх змогуць пакрыць паніжаныя платы за прадшколле. „Абвясцілі дадатковыя грошы ў бюджэтах на падтрымку самаўрадаў, — канстатавала міністр Шуміляс. — Асноўнай мэтай мае быць паніжэнне платы за ўдзел дзіцяці ў прадшколлі звыш пяці гадзін. Хочам, каб канцавая аплата не складала больш залатоўкі. Абазначае гэта, што ад верасня 2013 года 6 і 7 гадзіны раўняліся б залатоўцы”.

Па ацэнцы міністра фінансаў, згаданая рэформа каштавала б дзяржбюджэт 320 мільёнаў злотых. На гэта, разумеецца, міністр фінансаў не мог даць дазволу. Упраўляючая кааліцыя мае пяцьсот прыярытэтных задач. Дашкольная рэформа не надта важная. Можа пачакаць. Дзеткі не будуць пратэставаць, а бацькі... заплацяць, калі пажадаюць пакарыстацца „выгадай”. Такі прынцып рыначнай эканомікі нашай дэмакратычнай дзяржавы.

Не адзіны гэта прыклад „набівання ў бутэльку” выбаршчыкаў. У мінулым годзе была павышана стаўка падатку ПДВ з 22% на 23%. Урад заявіў, што павышаная стаўка будзе абавязваць да канца 2013 года.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


# Дзікая прырода ў радках вершаў!

Якія вобразы наклікае жыццярадаснае слоўца *вясна*? Можа бурлівы ручай, які напаўняе нас сілай і прагай жыцця? Мо першыя кветкі, што зацвілі ў агародчыку? Вясновыя птушкі, якія вяртаюцца з далёкага выраю і спевам напаўняюць паветра? А можа свята Вялікдзень? У гэты дзень, — як верылі нашыя продкі, — іграе сонца. Яно танцуе і мяне колеры, а той, хто пабачыць такое дзіва, будзе ўвесь год шчаслівы. Дзеці чакаюць іншага цуду. Яны выглядаюць хросных бацькоў, якія ў велікодны перыяд абдароўваюць іх фарбаванымі яйкамі і падаркамі. Абрад валачобнага захаваўся па наш дзень, і ён адметны на Падляшшы.

Сямейныя і сваяцкія сустрэчы ніколі не абмяжоўваліся да застолля і рэлігійных абрадаў. У Вялікдзень пажадана пайсці на доўгі шпацыр, у парк або ў лес, каб там любавацца спевам птушак і відам першых кветак. А ўжо найбольш цешаць нас рэдкія з'явы — калі сярод карычневага лісця ўглядзім фіялетавую сон-траву, мора пралесак аб лотаці на дзікім багне. Дзікая прырода — скарб Падляшша. А нашыя сябры з Нараўкі ўмеюць яшчэ свет дзікіх раслін і звяроў уплесці ў свае вершы і святочныя велікодныя пажаданні.

ЗОРКА



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Міра ЛУКША

## Веснавыя краскі

Летась у нас Вялікдзень у маі.
І на Юр'я сонца йграе.
Сонца цешыцца бясконца,
свеціць у вочы і ў аконцы.
У полі і на яйках краскі,
а раздолле ўсім як казка.
І дарослым, як і дзецям
з твараў бестурботнасць свеціць.
Бо Хрыстос уваскрос,
Збаўца нам, глядзіць з Нябёс,
людзям одум, радасць ласкі...
Вясна ў сэрцах, у сэрцах краскі.

Магдаліна БЯЛЯЎСКАЯ

## Дуб адзінокі

Стаіць у лесе дуб.
Летам зялёны, зімою голы.
Ён адзінокі, ніхто яго не кахае.
Толькі птушка каля дуба лятае,
Сядзіць на галінцы, штосьці ціўкаючы.
Але дуб такіх слухачоў не хацеў.
Часта ён у дол глядзеў.
Аднойчы аж пабляднеў:
Вырас дубок ля яго карэнняў!
Хтосьці выслухаў яго маленняў!
Дуб аж скакаў, проста ашалеў,
Ад радасці яшчэ больш пазелянеў!
Цяпер мае сябра-суседа.
Забыў мінулае.
Дубочак яго кахае.



# Конкурс пра вясну (19)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Адказы, найлепш па электроннай пошце, дашліце да 26 мая. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**1. У якое свята беларускія сяляне першы раз выганялі на папас авечак?**

**а) На Вербніцу,**

**б) На свята працы 1 Мая,**

**в) На Юр'е.**

**2. Які міфалагічны прататып прадстаўляе сабой святы Юры?**

**а) караля Ягайлу,**

**б) паганскага бога пладавітасці Ярылу,**

**в) рымскага кесара Юлія.**

**3. Які культурны асяродак на Беласточчыне рэактывуе юр'еўскія абрады?**

**а) Дом культуры ў Курашаве,**

**б) Музей малой айчыны ў Студзіводах,**

**в) Беларускі музей ў Гайнаўцы.**

Рашэнне конкурсу № 15 (13): 1 — Георгій Валкавыцкі (б); 2 — Георгій Валкавыцкі (в); 3 — Георгій Валкавыцкі (а).

Узнагароду, каляровыя алоўкі, выйграла **Наталля Ніканчук** з Арэшкава. Віншуем!

ЗОРКА



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Дзеткі з Новага Корніна

## Ярыла

Ярыла — бог урадлівасці, кахання, сілы і адвагі. Гэта малады, прыгожы юнак у белым плашчы і з вянком на галаве. Ён раз'язджае на белым кані, трымаючы ў руках жменю аржаных каласоў. У Юр'еў дзень (23 красавіка або 6 мая) Ярыла, на загад маці Лады, адмыкае вароты неба і на белым кані прыязджае на зямлю. З яго прыездам пачынаецца сапраўдная вясна. У гэты дзень упершыню выпускаюць жывёл у поле. Праўдападобна, старажытны беларускі герб Пагоня выводзіць свой пачатак ад Ярылы.

*(з беларускай міфалогii — „Жывая Кніга прыроды")*

Паўліна БАНАСЮК

## Неба

Глянь у неба на зоркі
Як кветкі на лузе
Як бы ў возеры пацеркі
Месяц па ім плыве

Глянь на палі цудоўныя
Не бяжы хутка так
Побач калоссе поўнае
Ад жыцця дастаеш знак

Глянь чалавеча навокал
Поўны прыгажосці свет
Грашовыя справы пазнаў
Ты за кар'ерай услед

Уля МАРЧУК

## Вясна

Ужо вясна да нас прыйшла,
многа цяпла людзям прынясла.
Птушкі прылятаюць
і весела спяваюць.
Дожджык траўку падлівае
і яна хутка падрастае.
Усё навокал зелянее
і на сэрцы прыгажэе.

Святочны пажаданні ад вучняў Непублічнай пачатковай школы свсв. Кірылы і Міфодзія ў Беластоку

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Музыка з кайфам

## Акустычны бярозаўскі «Б.Н.»

Дваццаць гадоў прайшло з часу, калі адзін з самых сусветных рок-гуртоў «Nirvana» зайграў свой канцэрт у рамках цыкла «MTV UNPLUGGED». Першыя кароткія выступы прайшлі яшчэ ў 1989 годзе, але канцэрты гуртоў «Nirvana» ці «Alice in Chains» з 1996 года вельмі часта вяртаюцца з-за сімпатыі слухачоў і фанатаў гэтых каманд. Безумоўна, ідэя канцэртаў «без электрычнасці» вызваліла шэраг пазнейшых думак наконт акустычнай музыкі ды канцэртаў. І зараз вельмі складана знайсці рок-гурты, якія не рашыліся на акустычныя выданні ці канцэрты. Нават такі выканаўца, як моцны і гучны «KORN», рашыўся запісаць сваю музыку ў акустыцы. Успамінала я пра берасцейскі гурт «Дай Дарогу!». Можа не дакладна гэта панк, бо там чуем шмат розных жанраў і ўплываў, але таксама вырашыліся яны на акустыку і даволі цікава атрымалася. Сваёй энергетыкі калісьці нашмат у акустыцы патраціў таксама гарадоцкі гурт «RIMA». А зараз маем чарговыя спробы актывацыі гурту пры дапамозе акустычных аранжыровак. Першую частку такога матэрыялу запрэзентаваў у сеціве бярозаўскі «Б.Н.».

Прыходзіць такі момант у жыцці гурту, нават вельмі папулярнага, што натуральная ініцыятыва і тэмпература працы паніжаецца. Трэба шукаць паратунку, але — з галавой. Акустыка часта прыносіць свежы подых музыцы, музыкам, публіцы. Хаця складана палічыць самым паспяховым праектам гурту «KORN» яго акустычны альбом, то напэўна прынёс цікавасць да новага твару гурту, зацікаўленне СМІ і г.д. Што зараз адбываецца з «Б.Н.»? Па-мойму крызіс сярэдняга ўзросту, але і патрэба працы гурту як сяброў, калег на новым полі, якое можа прынесці задавальненне і новых прыхільнікаў, як і прытрымаць старых.

«Б.Н.» запісаў свой акустычны альбом крыху ў стылі гаражавага гучання — эксперымент, напэўна эканоміка, але і вяртанне да каранёў, сентыментальнае падарожжа. Кожны раз, рыхтуючы акустычны альбом, гурт звяртаецца да сваіх традыцый, шукае тоеснасці, перадумвае. Такі працэс прайшоў «Б.Н.». Адным будзе падабацца, другія будуць крытыкаваць. Вы спачатку паслухайце. І найлепш напішыце як вам!..

i_basovka@o2.pl

*Уладзімір Лінскі*

# ЧЫРВОНАЯ КНІГА

Празвінеў званок. Як ветрам здула вучняў з калідора. Хуценька селі за свае парты.

У клас увайшоў настаўнік Барвінак.

— Я хачу навучыць вас распазнаваць кветкі і расліны, галасы птушак і звяроў, іх норавы і звычкі, — так ён пачаў урок.

Увесь клас падняў рукі.

— Што такое?

Кожны пачаў расказваць сваё: як узыходзіць сонца, як спявае шпак, якога колеру дрэвы восенню, як вавёрка грызла арэхі.

— Добра, сябры, — супакоіў вучняў задаволены Барвінак. — А ці ведаеце вы што-небудзь пра Чырвоную кнігу?

— Што за кніга? — першым спытаў Андрэйка.

— У яе запісваюць рэдкіх звяроў, птушак, рыб, рэдкія расліны.

— А навошта запісваць?

— Каб усе ведалі, што яны рэдкія. Трэба берагчы іх.

— Пачытайце нам гэтую кнігу, — папрасіла Алеся.

— Добра, я паспрабую расказаць вам казку пра насельнікаў Чырвонай кнігі.

Клас прыціх, не зводзіў вачэй з настаўніка. Барвінак пачаў:

— Магутны лясны асілак Зубр задумаў адночы цікавае падарожжа. Ішоў, ішоў Зубр і спаткаў Бурага Мядзведзя. Мядзведзь кажа:

«Сто гадоў назад прывольна жылося нашаму брату ў лясах Беларусі. Цяпер маем прытулак толькі ў Бярэзінскім запаведніку. Там забаронена высякаць старыя лясы».

Задумаўся Зубр, страсянуў паджарай грывай, сказаў:

«Пойдзем разам, мо яшчэ каго спаткаем».

Ідуць яны ды прыгадваюць даўнейшых лясных насельнікаў. На Палессі трапляўся дзікі кот. Каля Пінска вадзіліся рукакрылыя — гіганцкая вячэрніца і вялікая начніца.

Пачуў іх размову Барсук, папрасіўся ў кампанію, расказаў пра сваю бяду:

«Нас таксама мала засталося. Я падслухаў, як паляўнічыя казалі, што на барсукоў цяпер строга забаронена паляванне».

Выйшлі да ракі Прыпяці. Пачулі звонкае курлыканне шэрага жураўля. Барсук-усёвед разгадаў трывожныя крыкі: «Жораў скардзіцца, што іх сем'яў усё менш застаецца ў балотах, бо і балот меншае».

На сваю адзіноту наракалі чырвоны каршун, беркут, белая курапатка, пугач, белая чапля, чорны бусел, лебедзь-шыпун, трохпальцы дзяцел.

Пайшлі сябры далей. Трапілі ў край блакітных азёр. Прыляглі адпачыць. Матылькі лятаюць, конікі стракочуць...

Барвінак прыкмеціў, што вучні крыху стаміліся слухаць няпростую казку. Ён прапанаваў фізкультхвілінку.

*— Паскачыце, конікі —*
*Заленёнькія штонікі:*
*Прыг-скок! Прыг-скок!*
*Селі, пасядзелі,*
*Травіцу паелі,*
*На неба паглядзелі.*
*Прыг-прыг высока!*
*Скок-скок далёка!*

**(працяг будзе)**

# Вершы Віктара Шведа

## Чаму паўміралі продкі?

Янка кажа: — Нашых продкаў
Хіба лёс не біў салодкі.
Электрычнасці не мелі,
У тэлевізар не глядзелі.

Не было ў іх, аж да скону,
Радыё і тэлефона.
— Вось таму і паўміралі,
Адказаў Мікола з жалем.

## Сумны час

Увайшоўшы толькі ў клас
Янка скардзіўся Алёшы:
— У страшэнны жывем час,
Чую ў хаце: Грошы, грошы...

— Гэта толькі паўбяды
Будзе дружа мой харошы.
Чую ў хаце заўсягды:
Няма грошай, няма грошай...

# Польска-беларуская крыжаванка № 19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15:**

Голуб, пашана, вяснушкі, усмешка, вясна, кола, вокны, каларыт, Ада. Ток, вол, як, вусны, ясны, басма, не, птушка, школа, шакалад, ара, амулет.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Наталля Васько, Аня Бляўская** з Нараўкі, **Магда Сцепанюк** з Бельска-Падляшскага, **Караліна Кадлубоўская** з Орлі, **Янка Іванюк** з ПШ № 4 у Беластоку, **Марыюш Красько, Зузанна Мішчук, Малгажата Галёнка** з Арэшкава. Віншуем!

Szpik
Szpinak
Pawica
Siła
Saga
Zmiana
Hańcza
Polityk
Iwa
Wiwat
Zgoda
Sól
Ada
Młody
Wiedza
Witka
Jaki
Ulewa
Wróżka
Maj
Ala
Ar
Zadanie
Siew
Kraty
Organ

# Тэатр гэта па-ранейшаму храм

Інтэрв'ю з **Аляксандрам Марчанкам**, дырэктарам Цэнтра беларускай друматургіі і рэжысуры пры Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі ў Мінску, акцёрам, які з двума іншымі акцёрамі гэтага тэатра прыняў удзел у чытанні п'есы Паўла Пражкі «Зачыненыя дзверы» ў Драматычным тэатры імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку.


Фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Мацей Халадоўскі:** — *Якая мэта Цэнтра, які Вы ўзначальваеце?*

**Аляксандр Марчанка:** — Хоць не хапае мне для дзеяння гэтай структуры пэўных магчымасцей, мэта вельмі простая. Гаворка ідзе аб стварэнні ў лабараторыі ўмоў для з'яўлення новых беларускіх тэкстаў і іх прасоўвання. На лабараторыі і майстар-класах вітаем нашых драматургаў і рэжысёраў з суседніх краін, якія маюць досвед працы з тэатрамі розных тыпаў, такіх як, напрыклад, дакументальны. Пазней гэтыя тэксты адпраўляем у тэатры і робім чытанні. У нас нават ёсць прыклады, што некаторыя з так узніклых твораў былі перакладзены на іншыя мовы.

*— Чаму сучасная драматургія ў Беларусі ў сваёй велізарнай перавазе ствараецца на рускай мове?*

— У Беларусі, як вядома, дзве дзяржаўныя мовы: беларуская і руская. У той час як проза і паэзія ствараюцца на беларускай, то калі гаворка ідзе аб драме, гэты рынак па сутнасці справы рускамоўны. Ёсць некалькі чалавек, — я ўжо не кажу, напрыклад, пра Сяргея Кавалёва, які належыць да старэйшага пакалення і піша п'есы на беларускай мове, — маладых. Астатніх нашых драматургаў прыходзіцца перакладаць на беларускую мову. Гэта звязана з сітуацыяй у нас, у краіне, дзе большасць размаўляе на рускай мове штодня. У тэатры і нашым Цэнтры большасць сучасных драм, якія ўзнікаюць у Беларусі, на жаль, мы перакладаем з рускай мовы.

*— Дык нашто тэатр беларускай драматургіі, бо я разумею, што ў ідэі ён павінен прасоўваць беларускамоўную літаратуру?*

— Сярод тэкстаў, узнікаючых у Беларусі, але напісаных на рускай мове, ёсць цікавыя драмы, напісаныя нашымі калегамі, маладым пакаленнем. Справа ў тым, каб мы стымулявалі, ініцыявалі ў нейкі спосаб, беларускамоўныя «сітуацыі». Мы разумеем, што родная мова з'яўляецца вельмі важнай. У той жа час на практыцы часам цяжка знайсці патрэбныя словы-ідыёмы па-беларуску выказаныя па-руску. Тым не менш, мы стараемся гэта рабіць. Якраз для таго такі тэатр патрэбны, для захавання беларускай мовы, нават калі толькі ў астраўной кансістэнцыі.

*— А нашто беларусам беларуская мова, калі амаль усюды ў Беларусі гучыць руская?*

— ?!. Як гэта — нашто! Гэта відавочна, што гэта частка нашай самаідэнтыфікацыі. І гэта сумна, што наша краіна знаходзіцца ў разрозненым стане. Нягледзячы на ўсё перашкоды, у апошнія гады беларускую мову можна пачуць на вуліцах і ў аўтобусах штораз часцей, у прыватнасці, сярод моладзі ў Мінску. Значна часцей, чым гэта было ў 90-х мінулага стагоддзя. І гэта добра, што гэта так наступае натуральным чынам. У 90-х гадах многіх беларуская мова палохала. У рэферэндуме абралі двухмоўе, бо баяліся радыкальных змен, часам нават радыкальна нацыяналістычных выказванняў па-беларуску і спасылаючыхся на неабходнасць яе выкарыстання. Мая сям'я жыве ў большасці ў Беларусі. Мая маці, аднак, руская, бацька — беларус. Такіх прыкладаў у Беларусі шмат. Калі, аднак, стала б навязанай нормай, што нельга размаўляць па-беларуску, бо, напрыклад, не знайшлося б працы, нельга было б жыць у гэтай краіне, то, вядома, гэта было б жахліва, таму што, як мы ўсе ведаем, Беларусь з'яўляецца шматнацыянальнай краінай. Беларуская мова патрэбная, таму што ёсць у Беларусі людзі, якія лічаць сябе беларусамі, беларусамі сябе адчуваюць, маюць зносіны адзін з адным на беларускай мове ды прытым у прыгожай яе форме.

*— Якія праблемы разглядаюцца ў беларускай сучаснай драматургіі?*

— Я не магу сказаць, што драматургія, з якою мне даводзіцца мець справу ў апошні час, поўнасцю нацыянальная, беларуская. Спрабуе ўключыцца ў агульнаеўрапейскі, глабальны кантэкст. Гэта проста роздумы пра чалавека ў сучасным свеце, аб тым, як адчувае ціск часу і прагрэсу, як губляецца і знаходзіцца ў падобнага тыпу працэсах. У розных жанравых спосабах аб тым самым гавораць практычна ўсе нашы сучасныя драматургі, таксама і тыя, чые п'есы чыталі ў беластоцкім тэатры. І гэты Павел Пражка, і Дзмітрый Багаслаўскі, і чытаны тут раней Мікалай Рудкоўскі.

*— Дык што адрознівае сучасную беларускую драматургію ад гэтак званай заходнееўрапейскай і расійскай?*

— З майго пункту гледжання тое, што нашы аўтары знаходзяцца на нейкім памежжы. У многіх заходнееўрапейскіх з аднаго боку, і расійскіх з другога боку, можна ўбачыць часта радыкальны погляд на свет, які іх атачае. Усё гэта звязана з ментальнымі адрозненнямі паміж намі. Такім чынам, наша краіна знаходзіцца ўсярэдзіне, гайдаецца паміж. З аднаго боку, можна гэта назваць паліфаніяй, з другога боку чымсьці іншым, нейкім застаўленнем у нявыбары, нявызначанасці.

*— Я сустракаўся з меркаваннем, дарэчы, таксама беларускіх тэатральных крытыкаў, што беларускі тэатр не існуе ў сусветнай тэатральнай прасторы. Чаму?*

— Знаходзячыся ўнутры беларускага тэатра, мне цяжка адказаць на гэтае пытанне. Я ж магу адказаць, што нашы тэатры ездзяць на Захад: то туды, то сюды, што «Свабодны тэатр» працуе ў Лондане. Ну, але я згодны, што гэта паасобныя выпадкі. З нутра гэтай з'явы не прыкмячаю, але думаю, аднак, што беларускі тэатр пачаў імкнуцца да адкрытасці і прыняцця шырагу новых форм выяўлення, маючы пры гэтым на ўвазе, што не ўцячэ хутка ад дзеяння як асновы тэатральнага мастацтва. Тым не менш, ёсць ужо спробы працы не толькі ў класічнай форме ў адпаведнасці з прынцыпам: экспазіцыя, прадаўжэнне дзеяння, завязка, развязка, кульмінацыя.... І ўжо тэксты такога роду, якія піша Павел Пражка, паволі пачынаюць асвойвацца беларускімі рэжысёрамі, і, перш за ўсё, аўдыторыяй. Гэта вельмі цяжкае і неадназначнае. Я думаю, што гэта звязана з нашай нацыянальнай спецыфікай. Мы не любім перамен. Гэта наша жыццёвае страхаванне. Можна смяяцца над гэтым, але трэба разумець, што колькасць войнаў, уварванняў, якія Беларусь пацярпела, сфармавалі ў народзе патрэбу проста спакойнага жыцця. Я мару пра такі сучасны тэкст на сцэне аб гэтай патрэбе. Не высмейваючы, а апісваючы гэты феномен. На дадзены момант няма такога тэксту.

*— У мяне склалася ўражанне, што тэатр у Беларусі, я маю на ўвазе дзяржаўныя тэатры, не ідзе наперад, ён застаецца вельмі канвенцыйны, акадэмічны, недзе з 70-х гадоў.*

— Вядома, гэта так. Нават узрост пераважнай большасці нашых рэжысёраў у дзяржаўных тэатрах блізкі да пакалення, выхаванага ў Савецкім Саюзе ў традыцыйнай, класічнай псіхалагічнай школе драмы. Вядома, няма ў гэтым нічога дрэннага. Глядач ідзе ў тэатр за падключаным акцёрам, які на сцэне тут і цяпер перажывае і стварае нейкі эмацыйны стан, што кранае гледача. Тым часам, аднак, свет змяняецца, змяняецца форма, змяняецца ўспрыманне, тэмп жыцця. На самай справе, мы можа не паспяваем ісці ў нагу з усім гэтым. У сувязі са сваёю дзейнасцю сустракаюся са шматлікімі групамі моладзі, якая можа быць ва ўшчэрб прычасанай форме, дзе ўсё яснае, традыцыйнае, шукае новага. Маё жыццё працягваецца перш за ўсё ў лабараторыях, дзе нараджаюцца новыя ідэі і новае бачанне тэатра, хоць яны застаюцца на гэтым узроўні — лабараторным, так як гэтая моладзь не мае сваёй нейкай сцэны. Усё застаецца на ўзроўні лабараторных задум у Цэнтры. Так ці інакш, раней ці пазней, і ў нашым тэатры адбудуцца нейкія змены, хаця нельга забываць, што важную ролю адыгрывае тут попыт аўдыторыі, а для гледачоў важна, каб у тэатры ўсё было ясна, і тэатр быў месцам адпачынку. У нашай культуры функцыянуе прывычка і перакананне, што ў тэатр ідзеш як у храм мастацтва. З аднаго боку гэта прыгожа, з другога — абмяжоўвае магчымасці дыялогу.

*— Вы глядзелі «Чарнобыльскую малітву» ў Драматычным тэатры ў Беластоку. Якія ў Вас уражанні?*

— Гэта іншая форма, непрывычная. У нашым тэатры некаторыя сцэнічныя падзеі перадаюцца праз падключэнне і перажыванне тэксту, тут перададзены праз цікавыя мізансцэны, фантазіі і вобразы. Гэта па-іншаму ўплывае. Я не магу сказаць, што гэта лепшае. Я бачыў тры пастаноўкі паводле кнігі Алексіевіч: у нашым тэатры ў французскай рэжысуры, у цэнтры Меерхольда ў Маскве ў фінскай рэжысуры і тут, у Беластоку, у рэжысуры Агнешкі Карыткоўскай-Мазур. Сутнасць у тым, што ні адзін з рэжысёраў не адышоў ад апавядання аб трагедыі, хаця кожны расказаў аб ёй па-свойму. Адзін пра саперажыванне, другі праз агрэсіўнае, яркае запалохванне, трэці — праз метафарычныя, часам насмешлівыя карціны. Мне падабаюцца гэтыя тры варыянты, і, самае галоўнае, меў я магчымасць іх пабачыць і параўнаць. Ці беластоцкі спектакль быў бы зразумела прыняты ў Беларусі, я не ўпэўнены. Было б, верагодна, шмат патрабавальных людзей. Для гледачоў, азнаёмленых з тэатрам і зацікаўленых новымі з'явамі, якія прыходзяць да нас у Цэнтр, а ёсць іх ад 50 да 150 на кожным чытанні, верагодна, так.

— Дзякую за размову.

**Размаўляў Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Новы зборнік песень **Сцяпана КОПЫ**

Сцяпан Копа сабраў новы зборнік аўтэнтычных народных песень з Беласточчыны са сваёй калекцыі. У гэты спеўнік улічаны творы, запісаныя гэтым нястомным збіральнікам і музыкаведам у дзевяностыя гады мінулага стагоддзя — на Сакольшчыне. Гэта першы том. Другі будзе змяшчаць песні з ваколіц Дубровы-Беластоцкай і Ліпска.



Фота Адама ПАЎЛОЎСКАГА

Гэтая публікацыя з'яўляецца вельмі важным гістарычным дакументам, дзякуючы якому ад забыцця выратаваны вялікі скарб народнай музычнай культуры гэтай тэрыторыі. Гэтае багацце перадавалася з пакалення ў пакаленне тутэйшым беларускім народам, які, на жаль, амаль страціў сваю этнічную самабытнасць.

Сакольская зямля гэта месца стыку шматлікіх народаў і культур, галоўным чынам палякаў і беларусаў, што мае значны адбітак у музычным фальклоры ды абрадах і абычаях, уключаных у гэтае даследаванне. Відаць у іх таксама перайманыя звонку мелодыі і словы расійскіх, украінскіх і, вядома, польскіх песень.

Зборнік налічвае больш за 200 песень. З'яўляецца ён галоўным чынам плёнам фальклорных экспедыцый, ведзеных Сцяпанам Копам у 1997-1998 гадах разам са знакамітымі этнамузыколагамі з Санкт-Пецярбурга — прафесарам Ігарам Мацієўскім і доктар Галінай Таўлай. Некаторыя песні запісаў ён так у папярэднія, як і пазнейшыя гады. Чатыры паходзяць з бібліятэкі аўдыёзапісаў Пятра Бароўскага з Варшавы, чатыры запісаны ад Лідзіі Матэйчук з Агароднічак Супрасльскай гміны, а тры — вельмі каштоўныя беларускія народныя песні — ад Уладзіміра Юрчука з Беластока, родам з вёскі Паўлы Заблудаўскай гміны.

Падзел публікацыі на два тамы быў вырашаны незвычайна абшырным рэсурсам сабранага матэрыялу. Першы том ахоплівае паўднёвую частку цяперашняга Сакольскага павета — 21 мясцовасць з пяці гмін. Тэксты песень і іх нотны запіс былі спісаны з запісаў зафіксаваных ад каля пяцідзесяці народных спевакоў. Найбольш абшырны матэрыял да гэтага спеўніка ўнеслі Надзея Алекша з вёскі Піражкі (38 твораў) і Марыя Кулакоўская з Астраўка, родам з Крушынян. Значна ўзбагацілі гэтую кнігу таксама народныя спевакі з Міленкаўцаў (24), Новага Вострава (14), Глінішча-Вялікага (13), Даўгасельцаў (12), Гаркавіч і Стараўлян (па 8) ды Меляшкоўцаў (6).

Сабраны матэрыял быў складзены ў сем раздзелаў: I. Велікодныя (*валачобныя, на „Валоканне", канапелькі*); II. Дажынкавыя; III. Бяседныя; IV. Прыпеўкі; V. Вясельныя, VI. Хрысцінныя; VII. Розныя. Раздзел I адкрывае верш Марыі Кулакоўскай „Было свята", апісваючы велікоднае „калядаванне" ў гады яе маладосці. Два пачатковыя тэксты ў гэтым раздзеле гэта вітальна-прывітальныя формы з мелодыямі — пад вокнамі гаспадароў, у якіх былі незамужнія дочкі. Кавалеры, якія хадзілі „валокаць" (так называлася гэта традыцыя) віталі гаспадароў пераважна наступнымі словамі:

*Пане гаспадару, пані гаспадыня! / Пазвольце нам ваш дом развесяліць, / Каб нам і вам вясёлымі быць. / Ці дазволіце спяваць?* (Піражкі, Надзея Алекша)

або:

*Гаспадыня й гаспадару! / Як спіце — то Бог з вамі. /Калі не спіце — пагаварэце з намі. / — Пазвольце нам песні спяваць.* (Даўгасельцы, Ян Пэчык).

Калі гаспадары выказвалі сваю згоду на спяванне — выконвалі спачатку песню г.зв. „Святую", г.зн. *Хадзіў Хрыстос*, а далей спявалі *Канапельку*. За такое калядаванне (на працягу тыдня пасля Вялікадня) „валакальнікі" атрымлівалі галоўным чынам вараныя або сырыя яйкі ці іншыя сяточныя харчы, а бывала, што і віно ці гарэлку. На канец арганізоўвалі сабе супольны пачастунак і танцы з дзяўчатамі. Там, дзе „велікодных каляднікоў" гаспадары не прынялі, гучна казалі на іх: *Каб вам шыкавалі тыя пціцы, / што ходзяць па паліцы* (Піражкі, Надзея Алекша).

Энцыклапедыя „Этнаграфія Беларусі" абрад „Канапелькі" выводзіць ад традыцыі танцаў з карагодам і забавай, у якой знайсці можна элемент вясенніх прац. Пад мелодыю песні (тэмп памяркоўны хуткі, у метруме 2/4 або 4/4) танцавалі ў коле з падскокамі і прытупамі. Падскокі мелі мецы магічнае значэнне — верылі, што чым вышэй падскочыш, тым вышэйшымі сёлета парастуць каноплі. Каноплі, найвышэйшая культурная расліна, мела розныя карысныя функцыі — служыла як валакно і сыравіна на тканіны, з якой шылі бялізну, адзенне, мяшкі, сяннікі, плахты і да г.п., а таксама як пакулле, кароста і да да гэтага падобнае.

У II раздзеле апынулася восем песень, звязаных з даўнімі дажынкамі. Цяжкую працу пры жніванні канчалі ў полі ўрачыстым абыходам вакол г.зв. „адрынкі" (эквівалент польскай „przepiórki"), уласнаручна выкананай жнякамі з буйнага нязжатага, звязанага пярэвяслам жыта, аздобленага палявымі кветкамі і з пакладзеным пасярэдзіне — на палаценцы — кавалачкам хлеба як сімвалам жыцця. Жняцы атрымлівалі ад свайго гаспадара пачастунак, весела гуляючы вакол „адрынкі" (назва з вёскі Даўгасельцы). Варта адзначыць, што „przepiórka" мае на Беласточчыне розныя назвы — „пэрэпэліца" (Бельскі, Гайнаўскі і часткова Сямятыцкі паветы), „перапёлка" (ваколіцы Нараўкі і Міхалова), а ў Гарадоцкай гміне — у вёсках Вейкі, Падазераны, Зубры — называлі яе „клён".

Найбольш багатым — па колькасці і ў музычным плане — з'яўляецца раздзел III. Змяшчае ён 64 вядомыя папулярныя мелодыі. Іх значэнне трапна паказвае дэвіз: *Весяліся душа ў целі, хоць кашулю вошы з'елі...* (Піражкі, Надзея Алекша).

Беларускі народ, хаця жыў бедна, меў пачуццё натуральнага гумару. Сведчыць ад гэтым значная колькасць (15) *прыпевак-частушак*, змешчаных у чацвёртым раздзеле.

Раздзел V змяшчае 31 вясельную песню, якія складзены згодна з паасобнымі этапамі гэтай вельмі важнай сямейнай урачыстасці. Незвычайнай цікавінкай з'яўляецца песня спяваная перад выхадам маладой (маладога) з роднага дома да выезду на шлюб (*вянчанне*) у царкве ці касцёле. Мае яна загаловак „Сядай" („Ах сядай") і зафіксавана ў трох тэкставых версіях — польскай, беларускай і польска-беларускай. Яе паходжанне застанецца загадкай, паколькі Сцяпан Копа зусім выпадкова натрапіў на гэты твор (п.з. „Сядай на воз") у знішчаным неапазнаным (без вокладак) спеўніку, дзе напісана, што мелодыя паходзіць з... Заольззя.

Вяселлі на Сакольшчыне адбываліся традыцыйна ў нядзелі ў доме бацькоў маладой, а ў панядзелак — на г.зв. *прыданкі (прыданне)* — у маладога. Вядома, што кожны этап гэтай прыгожай урачыстасці меў традыцыйную назву з рознымі радаснымі, вясёлымі элементамі, падобнымі, як у іншых беларускіх мясцовасцях Беласточчыны — апісаных Сцяпанам Копам у раней выдадзеных спеўніках. На канцы раздзела змешчана некалькі вясельных песень, прызначаных дзяўчатам-сіротам, выходзіўшым замуж.

Раздзел VI пачынаецца вершам Марыі Кулакоўскай аб складанасцях з падборкай кумоў (хросных) чаргова нараджаных дзяцей. Пасля яго апублікаваны восем песень, выконваных за сталом у час хрысціннай бяседы. Паколькі на гэтай урачыстасці дыяпазон песеннага рэпертуару залежаў ад густу запрошаных гасцей, маглі таксама выконваць бяседныя песні (з III раздзела) або розныя (VII). Увазе зацікаўленых больш дэталёвымі інфармацыямі аб хрысцінных абрадах Сцяпан Копа прапануе сабраныя ім „Pieśni chrzcinne Wschodniej Białostocczyzny" (выд. ВААК у Беластоку ў 2008 г.).

Дапаўненнем гэтага раздзела з'яўляюцца калыханкі (спяваныя да сну немаўлятам) ды забаўлянкі — для падрастаючых дзяцей як неадлучны элемент у даўні час — для забаўляння і навучання, азнаямлення з акаляючым светам пры дапамозе простых і вобразных тэкстаў з мілымі дзіцячаму вуху мелодыямі.

Раздзел VII гэта збор складзеных у алфавітным парадку каля 50 розных песень. Тут знайшлі сваё месца каляндарныя абрадныя песні, напр. *Święty Jerzy* ці *Ой, Пятрова ночка*. Першая з іх датычыць святкавання дня святога Юрыя — 23 красавіка ў каталікаў і 6 мая ў праваслаўных. Гэтае свята было звязана з абходамі палеткаў абсеяных азімымі (жытам) — з малітвамі і просьбай да Бога за як найбольшыя ўраджаі, пасля чаго — побач уласнага палетка качалі каравай — на засланым абрусе — як сімвал буйнасці. Гэты абрад завяршаўся багатым сямейным частункам — на плахтах — побач палетка. На такую запісаную на Сакольшчыне польскамоўную песню (звязаную з гэтым святам) збіральнік нідзе больш на Беласточчыне не натрапіў. Знайшоў толькі дзве беларускія песні такога тыпу — *Святы Юрэ-Рыгорэ* з Дабрывады (Кляшчэлеўскай гміны) — у 1994 годзе, ды *Юр'я-Юр'яшу* з Гарадка — у 2011 годзе. Затое песня *Ой, Пятрова ночка* датычыць дня 12 ліпеня, калі праваслаўныя адзначаюць дзень Пятра і Паўла. Гэтая песня, аднак, больш звязаная з ноччу Купалы 6/7 ліпеня (паводле старога стылю).

У VII раздзеле можна знайсці песні рэкруцкія і іншыя — узятыя з розных аспектаў жыцця. Запісана тут таксама песня п.з. „Сорынька", якая адносіцца да яўрэйскага асяроддзя, прысутнага на гэтых землях да Другой сусветнай вайны.

Сцяпан Копа выказвае словы падзякі ўсім асобам, якія спрычыніліся да ўзнікнення гэтага каштоўнага спеўніка. Асаблівыя словы ўдзячнасці і павагі належацца выканаўцам гэтых песень.

Марта БАРАВАЯ

# Пра тых, якіх ужо няма

**Крынкі — адзін з ціхіх гарадкоў нашага ваяводства. Ад яго вялікіх дзён раздзяляе нас цэлае стагоддзе. Сённяшнія Крынкі гэта блытаніна некалькіх вузкіх вуліц з астаткамі абяднелых будынкаў — нямых сведкаў прайшоўшых стагоддзяў. Лад жыцця мясцовага насельніцтва нічым не адрозніваецца ад жыхароў навакольных, пустуючых вёсак.**

На мясцовай, калісь рабочай Пагулянцы, непадалёк руін старой яўрэйскай гарбарні, жыве васьмідзесяцічатырохгадовы Анатоль Шыгаловіч. З Крынкамі звязаны ён з самага нараджэння. Тут таксама выхаваліся яго бацька і дзед. Спадар Анатоль любіць часам прыгадаць сваё дзяцінства і юнацтва, пражытае ў сапраўды гарадскіх, даваенных Крынках. Немагчыма гаварыць пра гэты час, не ўспомніўшы адсутных сёння яўрэяў. Менавіта ім прысвечана было нашае супольнае падарожжа ў мінулае. Незвычайная вандроўка пачалася з успамінаў бацькоўскай хаты спадара Анатоля.

— Мае бацькі пабудавалі сабе вялікую, драўляную хату, — кажа спадар Шыгаловіч. — Яна стаяла па вуліцы Войска Польскага. Там я дарастаў. Хата была на два канцы. Адзін з іх прызначаўся кватарантам. Так траплялася, што толькі яўрэі ў нас пражывалі. Добра помню Гройсмана — уласніка адной з гарбарняў. Прабываў ён у нашай хаце, пакуль не паставіў сваёй і добра не раскруціў прадпрыемства. Бацькі гаварылі, што Гройсман нават наўперад грошы даваў, не баяўся, узнаў, што мы сумленныя. Калі адны адыходзілі, на іх месца хутка ўваходзілі іншыя. З усімі кватарантамі жылі мы дружна, наведвалі адзін аднаго, частаваліся ежай. Помню, вельмі мне пасмакаваў маркоўны цымэс і стравы з сачыўкі. Прыносілі нам і тоненькую мацу. Вядома, свінскага мяса не ўжывалі, але як немец сюды ўвайшоў, то некаторыя маладыя патаемна прасілі маю маму ператаліць сала на скваркі. Гаварылі мы з імі на простай мове. Яўрэйскія дзеці былі неразлучнай часткай нашай вулічнай кампаніі. З некаторымі з іх я хадзіў у школу, якая знаходзілася пры царкве, у будынку сённяшняй бібліятэкі. Нашы хлопцы часам брыдка з іх насмейваліся, прызываючы жыдамі пархатымі. Калі гэта ўспомніш, то прыкра робіцца. Гэтак не павінна быць, але ж дзеці, не ўтрымаеш...

Яны ж вельмі добрыя былі. Заўсёды нам памагалі. У той час дактары многа грошай каштавалі і таму мала хто ў іх лячыўся. Ішлі да іх, калі ўжо не было іншага выхаду, у асноўным з цяжка хворымі дзяцьмі. За грашовай дапамогай звярталіся тады да яўрэяў: «Пане купчэ, паратуйце». Пазычку людзі адраблялі — бабы прыбіралі хаты, мылі бялізну, а мужчыны заставаліся даўжэй у гарбарнях. Раней былі больш сумленныя людзі, сапраўды. Цяпер невядома, што парабілася, — сумна адзначае мой суразмоўца.

Яўрэі таксама стваралі магчымасці невялікага, дадатковага заробку. Бацька спадара Анатоля меў сваю гаспадарку, але часу ад часу падзарабляў перавозамі. Вясною часта фурай забіраў жыдоў у Грабшаў лес, што на паўднёва-ўсходняй ускраіне Крынак. Пан Грабш меў там свой будынак, які служыў за дачу некаторым, больш багатым купцам. Паветра прамысловых Крынак было вельмі забруджаным, таму адпраўлялі яны сваіх жонак і дзяцей як мага часцей на прыроду. У доўгім дачным будынку размяшчаліся пакоі і кухня. Абслугоўвацца, у тым ліку гатовіць ежу, трэба было індывідуальна. Сам Грабш жыў у Сёлках, па-польску званых Остапковшчызна, якія цяпер знаходзяцца за ўсходняй мяжой.

— Мне тады было дзесяць гадоў, — працягвае свой успамін спадар Анатоль. — Я таксама гасцей туды вазіў. Ведаў як з канём спраўляцца, запрагуць і я завязу, і прывязу. Часам вазіў ім туды ежу.

— Яўрэі перш за ўсё займаліся гандлем, — тлумачыць мой суразмоўца. — Вельмі добра ім гэта атрымлівалася. Крамаў было шмат, па некалькі на кожнай вуліцы. Нашы, калі хтосьці дзесь захоча будку адкрыць, то нейкі час трымаецца... Яны ж вельмі дружныя былі. Тавар прывозілі фурманкамі з сакольскіх аптовых складоў. Мабыць, утаргоўкі не было надта многа. Тады людзі стараліся абяспечваць сябе хатнім спосабам, нават макароны і то свае рабілі. Большасць крамаў супрацоўнічала з уласнікамі гарбарняў. Гэтыя замест грошай плацілі сваім працаўнікам вэксалямі. Такім чынам ад кожнай залатоўкі закупленага накіраваным туды працаўнікам тавару дзесяць грошаў заставалася прадаўцу.

Апошнім кватарантам у бацькоўскай хаце спадара Анатоля быў малады чалавек па прозвішчы Стамляр.

— Гэта ўжо ў вайну было, — згадвае мой суразмоўца. — Ён у гарбарні рабіў. У 1939 годзе пазвалі яго на фронт. Жонка Стамляра ў гэты час прабывала на лячэнні ў Друзгеніках. Адкрытым грузавіком разам з іншымі маладымі мужчынамі паехаў з крынскага рынку недзе ў напрамку Гародні. Больш мы яго не бачылі. Жонка вярнулася, забрала крыху рэчаў і направілася недзе да сваякоў.

— У нас добрыя жыды былі і нашы людзі добра з імі жылі, — канчае свой аповед Анатоль Шыгаловіч.

Толькі жаль, што дзесьці ў паваротах гісторыі прапалі сапраўдны горад і памяць пра яго колішніх жыхароў.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Магчымасць рабіць пакупкі ў інтэрнэт-крамах набывае ўсё большую папулярнасць. Зразумела, гэта з большага тычыцца буйных гарадоў, жыхары якіх з нейкіх прычын не хочуць прайсціся па магазінах. Але і ў маленькіх мястэчках і нават вёсках, дзе працуе трывалы інтэрнэт, іх насельнікі таксама маюць такую магчымасць. Праўда, трэба будзе крыху больш пачакаць, каб набыты тавар прывезлі кур'еры альбо прынеслі паштальёны. У той жа час найбольш кансерватыўная частка грамадства лічыць, што набываць рэч, не маючы магчымасці яе памацаць, гэта ўсё роўна, што купляць ката ў мяшку.

Калі ж агулам ацэньваць сітуацыю з інтэрнэт-продажам, то часцяком людзі набываюць праз яго рэчы, якія цяжка альбо немагчыма набыць у звычайных магазінах. Адным з прыкладаў распаўсюду такіх тавараў можна назваць сайт, што ў красавіку з'явіўся ў інтэрнэце і мае назву „Імбрык". Месціцца ён па адрасе **http://imbryk.by**, мае даволі простае, але ў той жа час прывабнае выяўленне.

Уладальнік сайта, а гэта прадпрымальнік Алесь Мазанік з Мінска, такім чынам тлумачыць назву сваёй інтэрнэткрамы. „Імбрык — гэта такі наватвор, якога не было, умоўна кажучы, 20 гадоў таму, але гэта такое слова, якое выклікае ўсмешку амаль ва ўсіх людзей, хто яго чуў. Для мяне імбрык — гэта як сімвал таго, што варта развіваць, каб не быць імбрыкам у пэўнай сферы жыцця. І ў выпадку з інтэрнэт-крамай — набывайце беларускае, не будзьце імбрыкамі!" — гаворыць Мазанік у інтэрв'ю для беларускай службы Польскага радыё.

Размешчаная ў верхнім левым вугле выява электрычнага чайніка прымушае ўзгадаць спрэчку аб правільным выкарыстанні слова „імбрык". Справа ў тым, што ў сучаснай рускай мове „чайнік" набыў яшчэ адзін сэнс — гэта такі дурнаваты чалавек, які ў нейкім пытанні альбо ўвогуле ў жыцці нічога не разумее, прычым паходзіць яно менавіта ад чайніка, які напоўнены вадой, выпускае пусты пар пры кіпенні. У беларускую гэтае значэнне перайшло без перакладу. Таму „імбрык" у выкарыстанні якога-кольвечы значэння „чайніка" часам выклікае адмоўнае стаўленне. Так, блогер Віталь Станішэўскі на сваёй старонцы ў Live Journal піша: „Буйным цветам расцвіло ўжыванне слова імбрык / імбрычак. Але непакоіць тое, што яно ўжываецца не па прызначэнні. Шматлікія гора-пурысты ўзялі яго на ўзбраенне, каб не казаць страшнае „чайнік". Усё б добра, калі б яны не называлі імбрычкам той чайнік, у якім заварваецца вада на пліце".

Што ж тычыцца тавараў, якія прапануе ўладальнік „Імбрыка", то яны сапраўды маюць выключна беларускую патрыятычную накіраванасць. Тут мы можам выбраць сабе цішотку з выявай Пагоні ці знакамітых гістарычных постацей. Набыць настольную гульню „Паўстанцы", дзе трэба гуляць карткамі з выявамі Кастуся Каліноўскага і іншых удзельнікаў паўстання 1863-1864 гадоў. Пазнаёміцца з некаторымі новымі выданнямі беларускіх кніг па разнастайных тэмах, а таксама з кампакт-дыскамі, дзе запісаны песні беларускіх выканаўцаў.

Алесь Мазанік, прызнаючы, што ў Беларусі існуе ўжо не адна інтэрнэткрама з больш-менш падобным таварам, сцвярджае, што ягонай канкурэнтнай перавагай з'яўляецца бясплатная дастаўка не толькі па Мінску, але і па цэлай Беларусі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара



### Чалавек, які тварыў мову

# 130 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Некрашэвіча

8 траўня 1883 г. у вёсцы Данілоўка (цяпер Светлагорскі раён Гомельскай вобласці) нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч, беларускі мовазнавец, грамадскі дзеяч. Паходзіў ён са шляхецкай сям'і Міхаіла Некрашэвіча, які займаўся сельскай гаспадаркай, і яго жонкі Евы. Сястра Ганна, па мужу Акановіч, у наступным была настаўніцай у амерыканскім Нью-Йорку. Род Некрашэвічаў герба „Любіч" вядомы з XVII стагоддзя і паходзіць са Слуцкага княства.

Пачатковую адукацыю Сцяпан Некрашэвіч атрымаў у сям'і. У 1908 г. скончыў настаўніцкую семінарыю ў Панявежы. Як і многія прадстаўнікі тагачаснага беларускага руху, у 1913 г. скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Працаваў у школе „Таварыства цвярозасці" ў Цельшынскім павеце Ковенскай губерні. З 1914 г. у час Першай сусветнай вайны — на Румынскім фронце. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. абраны ў армейскі камітэт 6-ай арміі. Уваходзіў у партыю Беларуская сацыялістычная грамада, затым — адзін з кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

У лёсаносным 1918 г. Некрашэвіч апынуўся ў Адэсе, быў там загадчыкам беларускай секцыі пры губернскім аддзеле народнай асветы. У выніку працы секцыі ў Адэсе напачатку 1918 навучальнага года былі адчынены 30 пачатковых беларускіх школ і змешаная беларуская гімназія ў складзе першых чатырох класаў, у якой навучаліся дзеці ўцекачоў з прыфрантавых тэрыторый Беларусі. Неўзабаве пераехаў у БССР, з 1920 г. стаў загадчыкам літаратурна-выдавецкага аддзела Наркамасветы, займаў шэраг іншых пасад. Удзельнічаў у арганізацыі Інстытута беларускай культуры, у 1922-1925 гг. быў яго першым старшынёй.

З пачатку 1925 г. да ліпеня 1926 г. быў на падвышэнні мовазнаўчай кваліфікацыі ў Навукова-даследчым інстытуце мовы і літаратуры пры Ленінградскім універсітэце, працаваў пад кіраўніцтвам Яўхіма Карскага. Далей зноў працаваў у Мінску на розных пасадах.

21 ліпеня 1930 г. арыштаваны Дзяржаўным палітычным упраўленнем БССР па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Пастановай калегіі Аб'яднанага ДПУ СССР прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў г. Сарапул (Удмурцыя, Расія). У 1936 г. тэрмін высылкі прадоўжаны на 2 гады. Працаваў планавіком-эканамістам кааператыўна-прамысловай арцелі інвалідаў, затым бухгалтарам канторы „Нарыхтзерне". Паўторна арыштаваны ў лістападзе 1937 г., прывезены ў Мінск, 19 снежня 1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Сцяпан Некрашэвіч па другім прысудзе быў рэабілітаваны ў 1957 г., а па першым — толькі ў 1988 г.

Важнейшымі працамі навукоўца ў галіне лексікаграфіі сталі „Беларуска-расійскі слоўнік" (1925), а таксама „Руска-беларускі слоўнік" (1928). Абодва слоўнікі былі ўкладзены разам з Міколам Байковым. Гэтыя слоўнікі карыстаюцца попытам і сёння. Унёсак Некрашэвіча ў развіццё мовы ўвогуле вельмі важкі.

Памяць пра вучонага ўшанавана ў роднай Данілоўцы — на месцы былога фальварка ўсталяваны памятны знак. А ў будынку ў Мінску, дзе быў Інбелкульт, усталявана мемарыяльная шыльда з імёнамі выдатных асоб, сярод якіх і Некрашэвіч.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

4 ☞працяг

# Рашэнне з даверам службам

у якой захоўванне правоў чалавека не выклікае сумненняў»:

— Гэтыя сведкі адмаўлялі заключэння любой здзелкі. Хоць падсудны сцвярджаў, што сведкі з Латвіі былі зацікаўлены ва ўтойванні праўды, таму што яны хавалі сваю дзейнасць перад падатковымі інспекцыямі, тлумачэнні абвінавачанага ў гэтым стаўленні з'яўляюцца цалкам беспадстаўнымі.

## Пракурор запатрабаваў замала

Падводзячы вынікі, суддзя быў пераканаты:

— Безумоўна, падсудны выканаў усе прыкметы злачынства махлярства. Не існуе ніякіх сумненняў, што дайшло да адмоўнага распараджэння маёмасцю і што абвінавачаны дзейнічаў з мэтай атрымання прыбытку. Абвінавачаны хацеў увесці банкі ў зман, паколькі ў адваротным выпадку не прадстаўляў бы ілжывых кантрактаў.

Спаслаўся таксама на прапановы больш нізкага пакарання, якога запатрабаваў пракурор:

— Гэтае пакаранне было б цалкам неадпаведным да цяжару здзейсненага злачынства, як выкарыстоўвае гэты тэрмін Крымінальны кодэкс ад 1969 г. (судом было вынесена рашэнне ў адпаведнасці з гэтым Кодэксам, з наступнымі яго зменамі, таму што ў моманце здзяйснення злачынства меў ён сілу — М. Х.). Сёння была б гэта «грамадская шкоднасць дзеяння». Такое пакаранне выносіцца такому чалавеку, які дапускаецца крадзяжу з узломам і крадзе аўтамабіль коштам 40 тысяч злотых, або выманьвае крэдыт — каб тут заставацца ў рэаліях справы — варты пару дзесяткаў злотых, а не таму, хто выманьвае крэдыт эквівалентны 300 тысячам долараў. Пакаранне з'яўляецца дастатковым з пункту гледжання індывідуальнай прафілактыкі. Яно дастаткова суровае, каб даказаць абвінавачанаму заганнасць яго паводзін, і каб у будучыні таго злачынства ён не здзейсніў.

Суд прылічыў да пакарання ўтрыманне абвінавачанага ў часовым арышце падчас працэдуры выдачы. Абгрунтоўваючы, чаму ён увёў прысуд без умоўнасці, ён сказаў:

— Абвінавачаны прыехаў у Польшчу, уцякаючы ад беларускага правасуддзя. Польшча дае прытулак уцекачам, вядома, яна і павінна яго прадстаўляць. Але, з іншага боку, Польшча не можа стаць прытулкам для тых, хто здзяйсняе крымінальныя злачынствы. Асобы, якія здзейснілі крымінальныя злачынствы, павінны ведаць, што выязджаючы ў Польшчу, нават калі раней ужо вялі палітычную дзейнасць, за тыя крымінальныя злачынствы тут, у Польшчы, будуць несці адказнасць.

## Трывога дэпутата

Пасля выхаду з залы суда Андрэй Жукавец пракаментаваў прысуд журналістам:

— Я не здзіўлены. Я быў гатовы на такі прысуд. Я не згодны з меркаваннем суда. Я ніколі не здзяйсняў злачынстваў, у якіх мяне абвінавачваюць, я не здзяйсняў ніякіх злачынстваў. Я лічу абуральным прызнанне сумленнымі доказы з Беларусі. Мяне здзіўляе стаўленне суда ў справе ціску ў Беларусі на сведак. Мы будзем змагацца да канца. Польшча не мела ў гэтым працэсе ніякага юрыдычнага інтарэсу. Я не згодны з пазіцыяй суда, што нельга тут гаварыць пра двайную падсуднасць. Я не згодны, што трэба прымаць пад увагу састарэласць дзеянняў у Беларусі, у якіх мяне абвінавачваюць. Меркаванне кансультанткі таксама сумніўнае. Пані кансультантка рабіла сваё даследаванне на фотакопіях маіх подпісаў. Справа супраць мяне была сфабрыкаваная. Я ўпэўнены, што беларускія службы ўплываюць на ход гэтай справы. Як, я яшчэ не ведаю.

«Ніве» дадаў спачатку жартам:

— Я думаў, што мяне адразу закуюць у кайданкі.

І сур'ёзна:

— Апеляцыя будзе праходзіць у Акруговым судзе ў Беластоку (тры разы гэты суд пагаджаўся экстрадаваць Андрэя Жукаўца, у канчатковым рахунку беспаспяхова — М. Х.), а суддзя Шыманскі там працуе. Вось чаму я не веру ў справядлівы прысуд у гэтым судзе. Я з нецярпеннем чакаю апеляцыю ў Вярхоўны суд, таму што лічу, што там беларускія службы не маюць уплываў.

Адразу пасля пастановы заяву з гэтай нагоды выдаў дэпутат Роберт Тышкевіч, віцэ-старшыня Парламенцкай камісіі па замежных справах і старшыня парламенцкай групы па справах Беларусі: «Я здзіўлены, засмучаны і сур'ёзна занепакоены сённяшнім рашэннем суда ў Беластоку ў справе Андрэя Жукаўца, беларуса, звязанага з беларускай апазіцыяй, і асуджанага за банкаўскія махлярствы — на аснове доказаў з Мінска. У мяне ёсць сур'ёзныя асцярогі, што яшчэ раз польская сістэма правасуддзя была выкарыстана беларускім рэжымам. Зраблю дэпутацкі запыт у гэтай справе да міністра юстыцыі і да першага старшыні Вярхоўнага суда. Я лічу, што, прымаючы пад увагу асаблівасці беларускай сітуацыі, трэба вельмі ўважліва прыглядзецца да таго, ці беларускія доказы ў гэтай справе можна лічыць годнымі даверу».

На наступны дзень пасля абвяшчэння прысуду ў эфіры незалежнага Тэлебачання Рэспубліка таксама былы міністр юстыцыі Яраслаў Говін паабяцаў «пільнаваць» гэтую справу: «Гэта сорам для нас, палякаў».

*Галіна ШУЛЬСКАЯ-ПЕХ*

## *Лука*

*У маіх марах*
*Тут стаіць хата,*
*Скромная, маленькая*
*І небагата.*

*Села сярод вёскі,*
*Вёскі Лука,*
*Ужо бліщчаць яе вокны.*

*Схіліліся да яе*
*Дзікія ружы...*
*І яшчэ хутчэй*
*Бягуць мае слёзы.*

*Плача душа і сэрца маё,*
*Асталіся толькі*
*Хаты ў думках вароты.*

*Асталіся толькі сліўкі і вішні,*
*І кудысьці ўцёк*
*Той час калішні.*

*Кудысь паляцеў,*
*І стрымгалоў*
*У рэчку Нарву пакаціўся.*

*Пакаціўся ў белыя горы*
*І хваёвы лес.*
*Пакаціўся ў душу,*
*Якая прыляцела сюды...*

*Ужо ў вялікім горадзе,*
*Ужо ў Беластоку...*
*Як прыеду да вас*
*Так часта, як штогод.*

*Я маю там Магілы,*
*Я маю там крыж.*
*Я маю там поле.*
*І што я зраблю болей*
*У маёй нядолі?*

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне.

1. музычны сімвал дзяржавы = 30 _ 10 _ 15 _ 24 _;
2. напой, у прынцыпе з кафеінам = 26 _ 27 _ 9 _ 2 _;
3. шасціграннік з квадратнымі бакамі = 1 _ 29 _ 3 _;
4. конская морда = 28 _ 22 _ 21 _ 20 _;
5. цвіце ў купальскую ноч = 6 _ 5 _ 13 _ 14 _ 7 _ 8 _ 11 _ 12 _;
6. найважнейшае кухоннае збудаванне = 4 _ 25 _ 23 _;
7. лічэбнік, што... плавае ў галоўнай палескай рацэ = 19 _ 16 _ 17 _ 18 _;
8. збруя са шлеямі, без дугі і хамута = 33 _ 32 _ 31 _ 34 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | | | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 |

**Адказ на адгаданку з 14 нумара**

Калгас, ванілін, „Аіда”, мінарэт, дыямент, кефір, шэпт.

Рашэнне: **Саван не мае кішэні**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

# 12.05 — 18.05

**(22.03. — 20.04.)** Да 13.05. можаш мець марны настрой і канфлікты з атачэннем. На працы не бойся новага. Энергія Сусвету падтрымае твае планы па перамене вобразу жыцця. Пазбудзься старызны і абыходзь хаатычных людзей. Ад аўторка да чацвярга будзеш загружаны работай на працы ці дома. Больш увагі адвядзі сабе і свайму выгляду.

**(21.04. — 21.05.)** Да 15.05. знакаміты час для інтарэсаў, падпісвання дамоў і наладжвання бізнесовых кантактаў. З 16.05. у тваім жыцці можа паявіцца хтосьці, хто адменіць тваё жыццё. Можа лагодна пакінеш старыя каляіны. На працы прыйдзецца востра пазмагацца з канкурэнцыяй, таму не паддавайся ніякім згрызотам, бо 11-15.05. могуць прытрапіцца расчараванні і няясныя сітуацыі.

**(22.05. — 22.06.)** 11-15.05. у кар'еры і табе засвеціць сонца. З 16 (да 20.05.) зоркі будуць заахвочваць да змен у штодзённым жыцці; мо варта завесці дома зусім новыя парадкі або з'ехаць у адпачынак. У палове мая нават цудоўным парам пагражаюць праблемы, а самотныя Блізняты маюць марныя шанцы на поспех.

**(23.06. — 23.07.)** Лад зорак спрыяе боязі і апаскам; не дзейнічай хаатычна; нядобры час кідацца на глыбокую ваду — лепш апрацаваць добры план і паслядоўна яго трымацца. Да 13.05. асцерагайся інвестыцый і пакупак. З 16.05. супакоішся і натхнішся самаўпэўненасцю. 11-15.05. — ненайлепшы час на афармлянне цяжкіх спраў — або чагось не зразумееш, або цябе абдураць; моцна трымайся фактаў.

**(24.07. — 23.08.)** 12-13.05. дзейнічай смела, не бойся змен. На працы будзь напагатове, каб твой праціўнік табе не падставіў нагі. У першай палове тыдня будзеш яшчэ адчуваць стому; добра высыпайся. Прыемна будзе глядзець як расце рахунак, на што нават не паўплывае Месяц у знаку Рыб, які прынясе пагрозу нечаканых выдаткаў.

**(24.08. — 23.09.)** 14.05. можаш пераканацца, што дзеці не дараслі яшчэ да нейкіх тэм (не выяўляй усіх сакрэтаў). Паправіцца настрой — добры час на рэгенерацыю сіл, аперацыі (да 20.05.). На важныя размовы і негацыяцыі дамаўляйся пасля 15.05.; добры час на новыя планы. Але не падпісвай дамоў 15.05. З 16 (да 20.05.) магчымыя фінансавыя праблемы; не пазычай, пільнуй кашалька.

**(24.09. — 23.10.)** З 16 (да 20.05.) шмат задавальнення і радасці. Лёгка дагаворышся, пагасіш канфлікты. Але ж 11-15.05. могуць разбіцца твае ўявы на тэму ідэальнага сяброўства. Асабліва ў пары можа «церціся». Дарвецца да цябе вясновае аслабленне, схочацца больш паспаць, паленавацца. А тут добры час на вялікія змены да лепшага, развой, вучобу, шанцы — цяпер вырашаеш справы важныя для тваёй будучыні.

**(24.10. — 22.11.)** Добры час на засноўванне сям'і, дамовы адносна кватэры і размовы з далейшымі сваякамі. Старайся не глядзець у мінулае. Можаш цяпер знайсці прыхільных, энергічных, інспіруючых людзей. Да 20.05. ты яшчэ не ў найлепшай форме, дык не бяры на сябе зашмат.

**(23.11. — 22.12.)** 12-13.05. могуць пахаладзець пачуцці. Да 15.05. можаш адчуць, што цябе выкарыстоўваюць, затое заляціць табе ў галаву шмат добрых задум. З 17.05. (да 21.05.) прадбачваюцца цяжкасці, горшая форма і шмат нерваў. Да 20.05. турбаваць будзе цябе стрэс. Знакаміта дагаворышся з людзьмі, ад якіх залежыць твая кар'ера; настаўся на калектыўную працу, супрацоўніцтва.

**(23.12. — 20.01.)** Калі маеце праблемы ў пары, папрацуйце над сваёй сувяззю. Іншыя няхай пашукаюць новага кахання, ды трэба ўвесці ў сваё жыццё сур'ёзныя змены. Добры настрой да 20.05. Заспакоеныя амбіцыі; не слухай кепікаў зайздроснікаў. Будзь асцярожны ў пятніцу з аўтамашынай.

**(21.01. — 19.02.)** З 16 (да 20.05.) ажыўленне ў пачуццях, а нават у жарсцях. Калі ты ў цяжкай сувязі, маеш шанц усё паправіць і ўратаваць. Добры час на шчырыя размовы ў даўгавечных парах. Выкараскаешся з кожнай сітуацыі, пры вялікім спрыянні планет. Паявіцца дробная, невялікая прапанова, якая неўзабаве дасць немалы плён.

**(20.02. — 21.03.)** 11-15.05. ускладняцца твае планы; не дай абмануць сябе інтрыганам і плеткарам. З 16 (да 20.05.) не спалохайся малых праблем. Да 20.05. Сонца спрыяе натужлівай працы. Будзе адбывацца няшмат, але і ты цяпер не надта прагны ўражанняў. Можаш нават стрымацца з рэалізацыяй важных для цябе праектаў, бо цяпер мала што з іх вынікне — пара ім на рэалізацыю пад канец мая.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7:00 – 18:00. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# У свеце гафту і карункі

**Падвядзенне вынікаў VI выпуску агляду «Гафт і карунка Гайнаўскага павета — 2013» адбылося 21 красавіка ў Гайнаўскай галерэі Музея і асяродка беларускай культуры. Арганізатарамі мерапрыемства, якое адбывалася ў рамках сяткавання 500-годдзя Падляшскага ваяводства і было прафінансаванае Маршалкоўскай управай, былі Гайнаўскі дом культуры і Аб'яднанне самаўрадаў Еўрарэгіёна «Белавежская пушча».**

Побач сваіх карунак і гафтаў Малгажата Краўчык (злева) і Галіна Бірыцкая з дырэктарам ГДК Расціславам Кунцэвічам

Самыя лепшыя творцы з Гайнаўшчыны атрымалі дыпломы і ўзнагароды з рук бурмістра Гайнаўкі Юрыя Сірака і дырэктара ГДК Расціслава Кунцэвіча. Іншыя ўдзельнікі конкурсу вярнуліся дамоў таксама з дыпломамі і падарункамі. Адкрыццё вялікай конкурснай выставы гафту, карункі і прац, выкананых іншымі тэхнікамі, адбылося ў прысутнасці жыхароў Гайнаўскага павета. Канешне, як сярод удзельнікаў конкурсу, так і сярод прыбылых на мерапрыемства пераважалі жанчыны, паколькі гэта яны традыцыйна займаюцца рукадзеллем. Але цікавыя працы запрэзентавалі таксама два хлопцы — Міраслаў Данілюк і Давід Слухоцкі. Паглядзець рукадзелле сваіх жонак, сваячак і знаёмых прыбылі таксама мужчыны, сярод якіх прысутны быў дырэктар Белмузея Тамаш Ціханюк. У конкурсе ўдзельнічалі таксама жыхары Павятовага асяродка сацыяльнай дапамогі з Гайнаўкі.

— На экспанаваных працах бачу прафесійнасць і майстэрства. Застаецца толькі захапляцца цудоўнымі гафтамі і карункамі, — заявіў бурмістр Юры Сірак.

Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч звярнуў увагу на вялікую цярплівасць і ангажаванасць жанчын, якія ўдзельнічаюць у конкурсе. Анна Тарасюк, адказная ў ГДК за арганізацыю конкурсу (дапамагала ёй Зінаіда Якуць) паведаміла, што 30 выканаўцаў даслалі 141 работу. Пазней яшчэ 2 асобы па-за конкурсам данеслі свае працы, якія прэзентуюцца на выстаўцы.

— Я хацела падзякаваць арганізатарам конкурсу з дома культуры за дзейнасць па захоўванні ўзораў і матываў народнага рукадзелля і інспіраванні да мастацкага рукадзелля паводле мясцовых традыцый, а працаўнікам Беларускага музея ў Гайнаўцы — за захоўванне і прэзентаванне даўняга рукадзелля. Заўсёды аўтары конкурсных прац стараюцца захапіць камісію разнароднасцю і незвычайнасцю гафтаў і карунак. Паяўляюцца штораз то новыя творцы. Мы таксама адкрыты на новыя тэхнікі рукадзелля. У гэтым годзе прэзентуем сутажную біжутэрыю. Сёлета нялёгка было ацэньваць конкурсныя працы з-за высокага іх мастацкага ўзроўню, — сказала старшыня конкурснай камісіі Аліна Дэмбоўская, кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім. Разам з ёю працы ацэньвалі Эва Мароз-Кэчынская — антраполаг культуры і захавальнік фондаў Музея Белавежскага нацыянальнага парку і Агнешка Ціханюк — гісторык мастацтва з Гайнаўскага белмузея.

— Я пад уражаннем прац, выкананых на падставе нашых традыцыйных узораў. Аднак вельмі цікавыя таксама работы з сучаснымі матывамі, хаця б тыя з кветкамі, што выканалі хлопцы. Вельмі падабаецца мне карункавы абрус з каляровымі кветкамі Вольгі Давідзюк, — заявіла Агнешка Ціханюк.

Ужо традыцыйна ў конкурсе на самыя прыгожыя гафт і карунку прынялі ўдзел жанчыны з Нараўчанскай гміны.

— Я зараз многа працую кручком. Навучылася рукадзеллю яшчэ ў маладых гадах. Больш часу стала адводзіць карункавым работам ужо ў пенсійным узросце. На конкурс даслала я абрус, сурвэты і ячэйка, за што атрымала вылучэнне. Стараюся яшчэ падтрымліваць традыцыйнае рукадзелле. Апошнім часам выступаю з «Цаглінкамі», бо трэба падтрымліваць нашу песенную культуру, — сказала Вера Осяк з Падляўкова.

— Жанчыны ў Плянце, між іншым Лена Харкевіч і Галіна Бірыцкая, выконваюць кручком фіранкі і абрусы. Мы трымаемся разам, каб захоўваць мясцовыя традыцыі. Я кручком выконваю яшчэ і накідкі на ложкі, — заявіла Малгажата Краўчык з Плянты, прыхільніца традыцыйнага будаўніцтва.

Малгажата Краўчык атрымала першую ўзнагароду ў катэгорыі карунак, другія месцы занялі Вольга Давідзюк і Хрысціня Грыгарук, а вылучэнні — Вера Осяк і Яніна Плева.

Першую ўзнагароду ў катэгорыі мяшанай тэхнікі атрымала Галіна Бірыцкая з Плянты:

— Сёння прэзентуюцца тры мае ручнікі, выкананыя з саматканага палатна, з традыцыйнымі карункамі і цікавымі гафтамі, зробленымі гладдзю; іконa Збавіцеля, вышытая крыжыкам і карункавая фіранка. На ручніках я вышыла палявыя кветкі, валошкі, макі, куколь і каласы жыта. Усё ўзятае з вясковага краявіду. Я вельмі рада першай узнагародзе, — сказала Галіна Бірыцкая. — Апошнім часам вярнулася мода на традыцыйныя ручнікі з карункамі і гафтамі з нашымі ўзорамі, якія сталі дарыць пры розных нагодах. У мінулым дарылі іх людзям, што адпраўляліся ў далёкую дарогу. Цяпер ручнікамі сталі адбордаць маладых, якія выязджаюць за працай у заходнія краіны, і робяць гэта прыгаворваючы: «Вяртайся здаровы і прывозь многа еўра».

Хрысціня Русачык з Нарвы, лаўрэатка папярэдніх выпускаў конкурсу, прэзентуе карціны вышытыя крыжыкам. Узнагароду ў катэгорыі гафтаваных прац атрымала за карціну з белавежскімі зубрамі. Члены конкурснай камісіі звярнулі ўвагу, між іншым, на матыў пушчанскага краявіду з зубрамі ў руху. Сама карціна была выканана з вялікай стараннасцю і ў мастацкім стылі. Спадарыня Хрысціня прызналася, што матыў пушчанскага краявіду запрапанавала ёй дачка Мажэна Русачык, паклонніца прыроды Белавежскай пушчы. Раўнапраўныя ўзнагароды ў гэтай катэгорыі атрымалі яшчэ Надзея Данеляк, Люцына Лешчук і Таіса Раманюк, а вылучэнне — Малгажата Браневіч.

— Я вышыла крыжыкам многа ікон. Цяпер вышываю карціны са свецкімі матывамі. Стараюся падбіраць больш цікавыя і арыгінальныя матывы, так як зубры на фоне Белавежскай пушчы. На выставе прэзентуецца таксама мой ручнік з узорамі з макаткі і сурвэта. Выконваючы традыцыйныя вырабы бяру пад увагу ўзоры з мінулага, але стараюся ўводзіць нешта сваё і арыгінальнае, — сказала Хрысціня Русачык.

У мінулым кожная вясковая дзяўчына, якая хацела выйсці замуж, мусіла навучыцца рукадзеллю, якому вучылі іх найчасцей мамы. Гэтыя ўмеласці перадаваліся з пакалення ў пакаленне, таму нават да сённяшняга часу захаваліся вельмі даўнія і арыгінальныя ўзоры.

У катэгорыі іншых удзельнікаў узнагароды атрымалі Моніка Абрамчык і Міраслаў Данілюк, а вылучэнні — Давід Слухоцкі і Ірэна Краська.

Анна Харытанюк з Гайнаўкі, якая ў катэгорыі мяшанай тэхнікі заняла другое месца, перш за ўсё займаецца выкананнем сутажнай біжутэрыі. Гафт з прымяненнем сутажу ў біжутэрыі — гэта сшыванне ядвабных шнурочкаў і спалучанне іх з дэталямі біжутэрыі.

— Мода на сутажную біжутэрыю прыйшла да нас з Францыі. Зараз яна вельмі модная ў Расіі. Для мяне гэта мастацтва, якое выкарыстоўваецца таксама як практычныя аздабленні, — патлумачыла Анна Харытанюк, наймалодшая ўдзельніца, якая прыйшла на адкрыццё выстаўкі разам з мужам і маленькім дзіцяткам. Яе сутажнай біжутэрыяй асабліва зацікавіліся жанчыны.

— Сутажная біжутэрыя на выставе паказвае, што конкурс адкрыты таксама на сучаснае рукадзелле. Аднак я асабліва захоплена працамі, інспіраванымі традыцыйнымі ўзорамі і матывамі. Вельмі важнае захаванне нашай спадчыны, як у даўніх вырабах, так і ў новых тэхніках. Я вельмі захаплялюся ручнікамі. Прэзентаваныя на сённяшняй выстаўцы — выкананыя на аснове саматканага палатна, з традыцыйнымі ўзорамі карунак, але ўжо гафты вылучаюцца рознымі матывамі, — дадала Аліна Дэмбоўская.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



ISSN 0546-1960